21 лютага 2020 | № 7 (666)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

А гей-та несапраўдны?!

Стар. 9



# Шасцёра смелых?

## Што мы ведаем пра прэтэндэнтаў на адзінага кандыдата ў прэзідэнты?



Сяргей ПУЛЬША

У праймерыз на адзінага кандыдата ў кампаніі пад назвай «Прэзідэнцкія выбары» будуць удзельнічаць шасцёра. Аргкамітэт па правядзенні праймерыз завяршыў прыём адпаведных дакументаў.

Такім чынам, за званне «адзінага» пазмагаюцца: Юрась Губарэвіч (рух «За Свабоду»), Ганна Канапацкая (экс-дэпутатка), Вольга Кавалькова (БХД), Мікалай Казлоў (АГП), Павел Севярынец (БХД), Аляксей Янукевіч (Партыя БНФ).

Варта зазначыць, што Канапацкая і Кавалькова збіралі 200 подпісаў для ўдзелу ў праймерыз. Астатнія былі вылучаныя сваімі палітычнымі структурамі. Неўзабаве павінна пачацца інтэрнэт-галасаванне па кандыдатурах, а потым і паездкі ў рэгіёны. На травень запланаваны Кангрэс дэмакратычных сіл, які канчаткова «аформіць» адзінага кандыдата ад апазіцыі.

Але паўстае шэраг пытанняў. Канечне, ясна, што ўсе гэтыя асобы ідуць на выбары, каб правесці «дэмакратычныя пераўтварэнні» краіны. Але якімі, на іх думку, павінны быць гэтыя пераўтварэнні і галоўнае — як іх плануецца ажыццяўляць? На вялікі жаль, уцямнага адказу на гэта няма. Прынамсі, яго не бачна.

Прыкладна зразумела, за што выступаюць кандыдаты. Усе ведаюць, што Аляксей Янукевіч, згодна з праграмай партыі — за захаванне суверэнітэту і незалежнасці Беларусі, але ж за тое самае, падаецца, і Лукашэнка. Структура Юрася Губарэвіча — за еўрапейскія каштоўнасці аж да далучэння да Еўрасаюза. Але што такое «еўрапейскія каштоўнасці», цяпер не могуць разабрацца нават у Еўропе. Хрысціянін Павел Севярынец, пры ўсёй яго харызматычнасці і рашучасці, выклікае шмат перасцярог у ліберальнай супольнасці.

Падаецца, толькі Мікалай Казлоў ад АГП мае даўно распрацаваную праграму «Мільён новых працоўных месцаў». Аднак праблемаў з працоўнымі месцамі



у Беларусі няма — толькі на сервісе работа.tut.by 25 тысяч вакансій. Праблема — з дастойнай аплатай працы, і як праграма АГП плануе яе вырашаць, не зразумела. І ці не састарэла гэтая праграма за гады?

Што мы ведаем пра Кавалькову і Канапацкую? Першая кіравала больш паспяховай кампаніяй БХД па супрацьдзеянні абортам і менш паспяховай — па дэалкагалізацыі насельніцтва. Аднак тое, што яна пайшла на праймерыз «у абыход» рашэння сваёй структуры, можа сведчыць пра яе недамаўляльнасць. Ганна Канапацкая, канечне, прыгожая жанчына, і гэтага досыць для таго, каб быць прызначанай у ППНС, але наўрад ці дастаткова для галасавання за яе на пасаду кіраўніка дзяржавы. Апроч таго, яна не здолела прасунуць у парламенце рэформу выбарчага заканадаўства, і істотна сапсавала сабе імідж законапраектам пра гарантыі мінуламу кіраўніку дзяржавы. Улічваючы, што галасаваць на праймерыз будуць дэмакратычна скіраваныя грамадзяне (прыхільнікі Аляксандра Лукашэнкі наўрад ці возьмуць у ім удзел), гэта пройгрышная пазіцыя. Чакаць, што яна будзе рашуча абараняць вынікі выбараў, таксама не выпадае, бо яна не здолела супрацьстаяць нават скарачэнню тэрміна сваіх паўнамоцтваў, калі Лукашэнка правёў дэ-факта незаконныя датэрміновыя парламенцкія выбары.

Калі задумаца — нібыта гэтыя людзі на слыху ва ўсіх, хто больш-менш цікавіцца палітыкай. А насамрэч атрымліваецца, што мы пра іх не ведаем амаль нічога! Пагадзіцеся, нават для інтэрнэт-галасавання — гэта не вельмі добра.

Зразумела, паўнавартасная праграма адзінага кандыдата будзе распрацоўвацца якраз у час праймерыз — з улікам экспертных меркаванняў і выказаных пажаданняў «прадстаўнікоў грамадскасці». Але хацелася б ужо цяпер хаця б тэзісна пачуць, як яны будуць рэфармаваць краіну. Прычым лозунгі кшталту: «Дэмакратычных пераўтварэнняў!», «Правоў чалавека!», «Вяршынства закону!» і да таго падобныя — зусім не цікавыя.

Як прэтэндэнт на пасаду кіраўніка краіны збіраецца «разруліць» канфлікт з Расіяй і дзе ён будзе браць нафту? Як рэфармаваць нашу нягеглую сельскую гаспадарку, каб яна працавала без мільярдных датацыяў? Якая пазіцыя прэтэндэнта па ўласнасці на зямлю? Што рабіць з сістэмай ЖКГ? Калі ўрэшце будзе іпатэка? Як зменіцца ўзровень жыцця насельніцтва ў выніку рэформаў, а калі знізіцца, то як надоўга? І гэтак далей.

Каб здабыць давер і падтрымку выбаршчыкаў, прэтэндэнт павінен казаць ім пра тое, што хвалюе іх, а не пра тое, што хвалюе яго. І хацелася б, каб адказы на падобныя пытанні мы атрымалі яшчэ да пачатку інтэрнэт-галасавання па адзіным кандыдаце. Каб выбар быў асэнсаваны, а не па прынцыпе «падабаецца — не падабаецца» альбо «любіць — не любіць».

Прынамсі, адказы зараз вельмі дапамогуць адзінаму кандыдату ў сапраўднай прэзідэнцкай гонцы ў будучыні.

# Прэмія ў гонар Міжнароднага Дня роднай мовы

**З Украіны прыйшла прыемная навіна. Сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў і Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны сужэнцы Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша сталі лаўрэатамі Прэміі імя Дмытра Нітчанкі (1905—1999), выдатнага ўкраінскага пісьменніка, літаратуразнаўца і грамадскага дзеяча.**

Прэмія ўжо больш за два дзесяцігоддзі присуджаецца Лігай украінскіх мецэнатаў і раднёй Нітчанкі да 21 лютага — Міжнароднага дня роднай мовы і адначасова дня нараджэння самога пісьменніка. Лаўрэаты яе — тыя, хто, як сказана ў прэсрэлізе прэміі, «абараняе і папулярызуе роднае слова, узнімае яго сацыяльны прэстыж і мае выразную грамадзянскую пазіцыю... Доктар філалогіі, прафесар Вячаслаў Рагойша і кандыдат філалогіі, дацэнт Таццяна Кабржыцкая шмат зрабілі для ўмацавання беларуска-ўкраінскіх культурных сувязяў. Гэта людзі, заўсёды павернутыя тварам да Украіны».

Сёлета адначасова з Т. Кабржыцкай і В. Рагойшам прэмія прысуджана галоўнаму рэдактару «Літературної України» Сяргею Куліду, «аўтару шэрагу дакументальных кніжак, які ўзяў на сябе адказнасць за лёс пісьменніцкай газеты ў складаных умовах палітычнай і фінансавай разгубленасці».

Дарэчы, у «Літературній Україні» за 14 лютага 2020 года побач з інфармацыяй пра Прэмію імя Дмытра Нітчанкі змешчаны вялікі адкрыты ліст лаўрэата Нацыянальнай прэміі імя Т. Шаўчэнкі, вядомага пісьменніка і выдаўца Міхайла Слабашпіцкага «Нам на Вас пашанцавала». У звароце да беларускіх лаўрэатаў згаданай прэміі аўтар паслання шчыра разважае пра іх вялікі ўклад ва ўмацаванне беларуска-ўкраінскіх культурных узаемаадносін, прапаганду ў Беларусі ўкраінскага мастацкага слова праз пераклад, навуковыя даследаванні, педагагічную практыку, а таксама пра некаторыя праблемы, якія даводзіцца пры гэтым пераадольваць.

Сардэчна віншуем лаўрэатаў!

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

# Патрабуем неадкладнага перагляду прысуду

**Беларускія праваабаронцы прынялі адмысловую заяву з нагоды прысуду анархістам Мікіту Емяльянаву і Івану Комару.**

Нагадаем, хлопцы былі асуджаныя на сем гадоў пазбаўлення волі кожны за псаванне маёмасці ў грамадскіх месцах (арт. 341 КК), замах на наўмыснае пашкоджанне маёмасці і наўмыснае пашкоджанне маёмасці, здзейсненае агульнанебяспечным спосабам (ч. 1 арт. 14, ч. 2 арт. 218 КК, ч. 2 арт. 218 КК), незаконныя дзеянні ў дачыненні да прадметаў, паражальнае дзеянне якіх заснавана на выкарыстанні гаручых рэчываў (ч. 2 арт. 295-3 КК). Шкода склала 1 рубель 48 капеек.

У віну Емяльянаву і Комару ставілася закідванне лямпачкамі з фарбай фасада будынка Мінскага гарадскога суда ў верасні 2019 года і два эпізоды выкарыстання гаручай сумесі (адзін з якіх не адбыўся) для падпалу дзвярэй следчага ізалятара ў кастрычніку 2019 года ў Мінску.

Мікіта Емяльянаў не адмаўляў свайго ўдзелу ва ўсіх трох акцыях і заявіў, што мэтай яго дзеянняў было прыцягненне ўвагі да палітычных зняволеных у Беларусі, выказванне нязгоды з дзейнай сістэмай і рэпрэсіямі за свабоду меркаванняў.

Іван Комар адмаўляў свой актыўны ўдзел у акцыях і заяўляў аб ужыванні да яго жорсткага абыходжання і ціску на яго прадстаўнікамі ГУБАЗіК МУС і іншымі асобамі з мэтай напісання яўкі з павіннай.

«У адпаведнасці з артыкулам 7 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, ніхто не павінен падвяргацца катаванням або жорсткаму, бесчалавечнаму або зневажальнаму яго годнасць абыходжанню або пакаранню, — падкрэсліваюць праваабаронцы. — У адпаведнасці з артыкулам 19 Пакта кожны чалавек мае права бесперашкодна прытрымлівацца сваіх меркаванняў. Кожны чалавек мае права на свабоднае выказванне свайго меркавання; гэта права ўключае ў сябе свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усялякага роду інфармацыю і ідэі, незалежна ад дзяржаўных межаў, вусна, пісьмова ці праз друк, або мастацкіх формаў выражэння, ці іншым шляхам па сваім выбары.

Карыстанне дадзеным правам накладае асаблівыя абавязкі і асаблівую адказнасць. Гэта права, адпаведна, можа быць звязана з некаторымі абмежаваннямі, якія, аднак, павінны быць устаноўленыя законам і з'яўляцца неабходнымі: а) для павагі і рэпутацыі іншых асобаў; б) для аховы дзяржаўнай бяспекі, грамадскага парадку, здароўя і маральнасці насельніцтва.

Такім чынам, дапушчальныя абмежаванні свабоды выказвання меркаванняў, устаноўленыя для аховы грамадскага парадку, павінны быць прапарцыйнымі і не выходзіць за неабходныя межы. Супрацьпраўнае выкарыстанне гаручай сумесі, пашкоджанне маёмасці можа і павінна пераследавацца па законе, аднак пакаранне за гэтыя парушэнні не павінна быць празмерным і непрапарцыйным.

У адпаведнасці з артыкулам 14 Пакта кожны мае права пры разглядзе любога крымінальнага абвінавачання, прад'ўленага яму, на справядлівы і публічны разбор справы кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом.

У парушэнне названых правоў Мікіта Емяльянаў быў асуджаны да празмерна жорсткага пакарання, якое з'яўляецца відавочна непрапарцыйным зробленаму.

Іван Комар таксама быў пакараны празмерна жорстка, непрапарцыйна пастаўленым у віну дзеянням.

Акрамя таго, суд не праверыў належным чынам заявы Комара пра прымус да дачы паказанняў, аб жорсткім абыходжанні і пагрозах катаваннямі; не дадзеная належная ацэнка праведзеных у дачыненні да абвінавачанага Емяльянава аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, якія парушылі яго права не сведчыць супраць сябе, а таксама карыстацца дапамогай адваката, што ў сукупнасці з іншымі парушэннямі правоў абвінавачаных сведчыць аб несправядлівым судовым разглядзе.

З улікам цяжкасці наступстваў зробленага, наступных паводзінаў і дадзеных пра асобу абвінавачаных, меліся падставы прымянення да Емяльянава і Комара мераў крымінальнай адказнасці, не звязаных з пазбаўленнем волі, прадугледжаных санкцыямі адпаведных артыкулаў Крымінальнага кодэкса.

Усё выкладзенае можа сведчыць аб непрапарцыйным пакаранні Мікіты Емяльянава і Івана Комара ў сувязі з іх поглядамі і перакананнямі.

У адпаведнасці з Кіраўніцтвам па вызначэнні паняцця «палітычны вязень», палітычным зняволеным можа з'яўляцца асоба, пазбаўленая волі, калі пры наяўнасці палітычных матываў яе пераследу мае месца хаця б адзін з наступных фактараў:

- пазбаўленне волі было ўжытае ў парушэнне права на справядлівае судовае разбіральніцтва, іншых правоў і свабодаў, гарантаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах;
- пазбаўленне волі было заснаванае на фальсіфікацыі доказаў усвядомленага правапарушэння альбо пры адсутнасці падзеі ці складу правапарушэння альбо яго здзяйсненні іншай асобай;
- працягласць ці ўмовы пазбаўлення волі відавочна непрапарцыйныя (неадэкватныя) правапарушэнню, у якім асоба падазраецца, абвінавачваецца ці была прызнаная вінаватай.

Лічым неабходным патрабаваць для Мікіты Емяльянава і Івана Комара неадкладнага перагляду прысуду пры захаванні права на справядлівае судовае разбіральніцтва і ліквідацыі пералічаных парушэнняў».

***Заяву падпісалі:** Праваабарончы цэнтр «Вясна»; РПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт»; ПУ «Беларускі дакументацыйны цэнтр»; РГА «Прававая ініцыятыва»; Установа «Кансультацыйны цэнтр па актуальных міжнародных практыках і іх імплементацыі ў праве «Хьюман Канстанта»; Праваабарончая ініцыятыўная група «Ідэнтычнасць і права»; Цэнтр прававой трансфармацыі Lawtrend; Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскага*

# Камунальнікі так «упрыгожылі» Гродна, што людзі больш не могуць маўчаць

**За некалькі апошніх гадоў цэнтр Гродна стаў пляцоўкай для творчасці камунальных службаў. Пластыкавае сэрца, бляшаны глобус, драўляны турыст і сметніцы-джэнтльмены — далёка не поўны пералік упрыгожвальніцтваў, якія выклікалі неадназначныя эмоцыі ў гараджан. Кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення, стаў раяль у парку Жылібера, піша hrodna.life.**

Адкуль узялася ідэя гэтай апрыгажосці, хто падумаў пра яе адпаведнасць старому парку і гістарычнай архітэктуры Гродна — дагэтуль незразумела. Як і тое, чаму мастакам і дызайнерам складана ўсталяваць свае працы ў цэнтры горада, а камунальнікам — не.

Лідар па ўпрыгожвальніцтве гістарычнага цэнтра горада — смеццесартавальны завод. Дырэктара прадпрыемства Вячаслава Андрэеўскага ў народзе ўжо назвалі «галоўным творцам Гродна». Апошняя ініцыятыва завода — бутафорскі раяль для парку Жылібера, абцягнуты пластыкавым штучным газонам. На раялі ўстаноўленыя датчыкі руху — калі падысці бліжэй, з яго загучыць песня Стаса Міхайлава «Усё для цябе».

«Шкада, што гарадскія ўлады дзейнічаюць паводле прынцыпу — хто плаціць грошы, таму і дарога, — кажа мастацтвазнаўца Наталля Паўленка. — Ствараецца ўражанне, што такія аб'екты ніяк не праходзяць узгадненне. Атрымліваецца, усё ствараецца ў рамках "добраўпарадкавання", на якое бюджэт выпісваецца, але якія менавіта "працы" будуць зробленыя — не ўдакладняецца».

Здзіўленне Наталлі Паўленкі выклікае і тое, што рашэнні аб эстэтычным абліччы гістарычнага цэнтра аддаюцца «на водкуп» людзям, якія не маюць прафесійнай мастацкай або культуралагічнай адукацыі. «Баюся, што нават у анамнезе адукацыі раздзел "мастацтва" адсутнічаў спрэс», — кажа мастацтвазнаўца.

«Так атрымалася, што ў Гродне склаліся дзве паралельныя рэальнасці, — кажа дызайнерка Ірына Варкулевіч. — Яны існуюць незалежна адна ад адной. Адна — еўрапейскі горад. Другая — горад, які існуе паводле законаў «калгасу» з дажынкамі і сметніцамі-джэнтльменамі».

«Паводле закону, усе гэтыя лебедзі з пакрышак, грыбы-тазікі і гэтак далей павінны быць забароненыя. Але не, усё гэта заахвочваецца. Раз ніхто не забараняе баяністку на Савецкай, значыць, яе казацкі рэпертуар камусьці патрэбны. Увогуле, відавочная задача — не зрабіць горад падобным да еўрапейскага, а наадварот, каб ён нічым не адрозніваўся ад сярэдняга расійскага гарадка. Ніякая архітэктурная спадчына ўжо не ратуе».

У Гродзенскай ЖКГ распавялі, што распрацоўкай і ўсталёўкай малых архітэктурных формаў могуць займацца нават самі жыхары горада. Каб паставіць такі аб'ект у спальным раёне, узгадніць яго трэба толькі з мясцовым ЖЭСам.

Што тычыцца гістарычнай часткі горада, то ўсе працы і ўстаноўкі павінны быць узгоднены з аддзелам культуры і ўпраўленнем архітэктуры Гродзенскага гарвыканкама, а помнікі — дадаткова праходзіць праз мясцовы і Рэспубліканскі мастацка-экспертны савет і Савет па манументальным і манументальна-дэкаратыўным мастацтве пры Міністэрстве культуры.

Але ў Гродне гэта не ратуе сітуацыю. «Усе навучыліся абыходзіць манументальны савет, які ёсць у Гродне, — адзначае мастак Аляксандр Сільвановіч, — спасылаюцца на тое, што ўсталёўваюць не помнікі, а "дэкаратыўныя кампазіцыі", на якія не патрабуюцца ўзгадненні. Але здзівіць камунальнікі нічым не могуць, а сэнсоўныя рашэнні, такія, як бюст Багдановічу, горад чамусьці не рэалізоўвае. Па выніку ставім не зразумей што. А да нас прыязджае шмат творчых сяброў, і гэта ўсё заўважна. Турысты таксама едуць глядзець не на гэтую дробную пластыку, а на адзін з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі».

«Усё [павінна быць] узаемазвязана — асяроддзе, архітэктура, малыя формы і гэтак далей, — кажа Ірына Варкулевіч. — Пакуль горад жыве па нейкіх дрымучых правілах, па законах аграгарадка, нічога не зменіцца».

**Паводле hrodna.life**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Запасаемся грашыма і папкорнам

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ужо не першы раз мы сутыкаемся з тым, што ў нас ва ўрадзе правая рука не ведае, што робіць левая. Бо ніхто там не можа адмовіць кіраўніку дзяржавы.**

Напрыклад, Аляксандр Лукашэнка на фоне «змагання на розных эканамічных франтах» даручыў Міністэрству фінансаў прааналізаваць бягучую сітуацыю з напаўненнем бюджэту. «Вынік гэтых бітваў заўсёды бачны фінансава ў бюджэце», — патлумачыў ён, прымаючы з дакладам міністра фінансаў Максіма Ермаловіча.

Але ў першую чаргу беларускі кіраўнік пацікавіўся не напаўненнем бюджэту, а яго выдаткамі. «Што з заробкамі бюджэтнікаў, ці выконваем мы абавязацельствы, асабліва па той рэформе заработнай платы, пра якую мы гаварылі? У СМІ пішуць рознае, але хацелася б ведаць, як ідуць справы. І па астатніх пытаннях фінансавання з бюджэту», — спытаў Лукашэнка.

Міністру фінансаў, зразумела, давялося выкручвацца. Бо сапраўды заробкі бюджэтнікам — балючая тэма, бо на носе прэзідэнцкія выбары. І нельга напярэдадні не падкарміць тых, хто на справе забяспечвае «элегантныя перамогі»: напрыклад, настаўнікаў, з якіх часцяком складаюцца камісіі і якія НЕ лічаць галасы выбаршчыкаў. Бо, як кажуць, талент павінен хадзіць галодным, — і калі не падкарміць настаўнікаў, раптам у іх матэматычны талент прачнецца?

Таму на-гара былі выдадзены лічбы Нацыянальнага статыстычнага камітэта. Згодна з імі, рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Беларусі ў 2019 годзе выраслі на 6 % да ўзроўню 2018 года. Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата работнікаў у 2019 годзе склала 1090,9 рублёў і вырасла на 13,3 % да ўзроўню 2018 года. Рэальная заработная плата ў 2019 годзе вырасла на 7,3% да ўзроўню 2018 года.

Улічваючы тое, што інфляцыя за 2019 год склала 4,7%, рост даходаў усё ж адчувальны, хаця і знаходзіцца ў межах стандартнай трохпрацэнтнай статыстычнай хібнасці.

У той жа час, згодна з тым жа Белстатам, ВУП Беларусі ў студзені 2020 года ўпаў на 1,9% адносна студзеня 2019 года. Зразумела, гэта звязана з «недагрузкай» нашай нафтаперапрацоўкі з-за адсутнасці паставак расійскай нафты і вытворчасцю калійных угнаенняў з-за адсутнасці экспартных кантрактаў. Таксама кажуць, што сваю лепту ў падзенне ВУП у студзені ўнесла і цёплая зіма.

Аб'ём прамысловай вытворчасці ў студзені ў бягучых цэнах зваліўся на 5,8% да ўзроўню студзеня 2019 года. Падзенне вытворчасці ў «горназдабывальнай прамысловасці» склала 3,6%, у «апрацоўчай прамысловасці» — 5%, у «забеспячэнні электраэнергіяй, газам, парай, гарачай вадой і кандыцыянаваным паветрам» — 10,5%. І гэтак далей.

Гэта — зноў жа — тое, пра што казалі шматлікія эканамісты. Не можа быць росту заробкаў у той час, калі падае вытворчасць, тобок ВУП. Фактычна гэта азначае, што ў эканоміку ўкідаюцца незаробленыя грошы. Чым гэта небяспечна, мы неаднаразова бачылі ў час розных дэвальвацый.

Трывожны званочак і ў іншым: запасы гатовай прадукцыі на 1 лютага дасягнулі 5,6355 млрд рублёў (крыху больш за палову ВУП), або 82,2% да сярэднямесячнага аб'ёму прамысловай вытворчасці. Тобок, даволі хутка нам зноў спатрэбіцца «разгрузка складоў».

**Не можа быць росту заробкаў у той час, калі падае вытворчасць, тобок, ВУП. Фактычна гэта азначае, што ў эканоміку ўкідаюцца незаробленыя грошы. Чым гэта небяспечна, мы неаднаразова бачылі ў час розных дэвальвацый**

Нагадаем, што аналагічная сітуацыя назіралася ў 2014 годзе. На 1 студзеня 2014 года аб'ём складскіх запасаў прадукцыі складаў 70,2% у адносінах да месячнага аб'ёму вытворчасці. За год сітуацыя не выправілася: складскія запасы ў чацвёртым квартале захаваліся на ўзроўні 70% да месячнага аб'ёму вытворчасці.

Вынік — услед за падзеннем расійскага рубля ў снежні 2014-га пакаціўся і беларускі рубель. Каб спыніць яго падзенне, 20 снежня быў уведзены 30-працэнтны камісійны збор на куплю валюты фізічнымі і юрыдычнымі асобамі (29 снежня — зніжаны да 20%), былі спынены гандаль валютай на пазабіржавым валютным рынку і павялічана норма абавязковага продажу валютнай выручкі да 50%. Афіцыйны курс долара, дзякуючы гэтым захадам, вырас да канца года толькі да 11900 старых рублёў, але ў краіне зноў з'явіўся «чорны рынак» валюты, дзе курс даходзіў да 15000 рублёў за долар. У выніку ўрад вымушаны быў прызнаць дэвальвацыю рубля. Агульнае падзенне беларускіх грошай да долара ў 2015 годзе склала 55 %. Але дзякуючы абясцэньванню айчыннай валюты «патаннелі» і складскія запасы. Склады ўдалося разгрузіць.

Дэвальвацыя дзеля разгрузкі складоў — рашэнне лагічнае, тым больш, што адмыслоўцы і так кажуць пра «пераацэненасць» беларускага рубля. Аднак не з рукі яе праводзіць перад выбарамі. Таму прымаюцца іншыя захады для, хаця б, непавелічэння складскіх запасаў. ААТ «МАЗ» абвясціла аб тым, што ўводзіць прастоі з 7 па 21 лютага і з 9 па 20 сакавіка, у вымушаны адпачынак адпраўлена трацina супрацоўнікаў прадпрыемства.

У гэтыя перыяды будуць працаваць усе вытворчасці і заводы, але ў меншай колькасці. Прастоі закрануць «некаторыя структурныя падраздзяленні, у тым ліку заводакіраўніцтва, кіраўнікоў, спецыялістаў і служачых, у якіх праца ў поўным аб'ёме не патрабуецца». Работнікі, якіх адправяць у вымушаны адпачынак, будуць атрымліваць не менш за 2/3 тарыфнай стаўкі.

Аналагічна паступіла ААТ «Белшына». Яна спыніла тры з чатырох заводаў. Завод масавых шын і завод буйнагабарытных шын сышлі на прастоі з 17 па 21 лютага. На заводзе звышбуйнагабарытных шын канвеер спынены з 17 лютага па 1 сакавіка. Астатнія падраздзяленні, у тым ліку механічны завод, у гэты час працягнуць працу. На перыяд вымушанага прастою работнікам прадпрыемства выплацяць 2/3 ад акладу.

Праўда, у «Белшыне» асноўнай прычынай перапынку ў працы названы планавы рамонт тэхналагічнага абсталявання. Аднак на прадпрыемстве сказалі, што «на Белшыне праблемы былі, ёсць і будуць, на жаль».

Так што гэты год для беларускай эканомікі будзе поўны сюрпрызаў. Але паўгода мы яшчэ пажывём спакойна — наўрад ці крызісным з'явам дадуць ход да чарговай «элегантнай перамогі» Аляксандра Рыгоравіча. А ўжо там... Запасаемся грашыма і папкорнам.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Яўген Батура

**Суд Цэнтральнага раёна Мінска зноў аштрафаваў актывіста на 1350 рублёў (50 базавых велічыняў) за адну са снежаньскіх акцый пратэсту супраць паглыблення інтэграцыі Беларусі і Расіі.**

Суддзя Іван Касцян прызнаў Батуру вінаватым у «парушэнні парадку правядзення масавых мерапрыемстваў» (ч. 3 арт. 23.34 КаАП). Пакаранне ён прызначыў тое самае, што і яго папярэдніца, суддзя Юлія Густыр.

Нагадаем, аналагічны прысуд у дачыненні да актывіста ад 11 лютага быў скасаваны Мінскім гарадскім судом. З гарадскога суда справу адправілі на дапрацоўку, але ў РАУС літаральна за дзень склалі на Батуру новы пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні за ўдзел у акцыі 20 снежня. З моманту скасавання пастановы праваахоўнікі маюць два месяцы, каб зноў паспрабаваць прыцягнуць чалавека да адказнасці.

Яўген Батура заявіў, што будзе абскарджваць вырак Івана Касцяна.



## Наталля Качанава

**Старшыня Савета Рэспублікі заявіла, што Лукашэнка персанальна распарадзіўся захаваць Грушаўскі сквер.**

Нагадаем, жыхары мінскага мікрараёна «Грушаўка» пратэставалі супраць вырубкі скверу і яго забудовы. На ўчастку, што закранаў тэрыторыю сквера, планавалася будаўніцтва дадатковых секцый жылога комплексу «Гранд Хаўс». З пратэстам людзі звярнуліся нават у Адміністрацыю прэзідэнта.

Качанава асабіста сустракалася і размаўляла з актывістамі напрыканцы студзеня.

«Я паведаміла кіраўніку дзяржавы, як развіваецца сітуацыя, і ён прыняў рашэнне, што Грушаўскі сквер павінен быць захаваны. Забудова і добраўпарадкаванне будуць весціся так, каб ён ні ў якім разе не пацярпеў», – цытуе Качанаву БелТА.

З аднаго боку, канечне, прыемна, што ўлада звярнула ўвагу на патрабаванні людзей. Аднак з іншага, уражвае ўзровень рэакцыі. Магчыма, хутка спраўдзіцца знакаміты анекдот пра Аляксандра Рыгоравіча: «Без мяне бульбу перабраць не могуць!»



## Вадзім Прыстайка

**Міністр замежных спраў Украіны ў інтэрв'ю чэшскаму выданню Respekt спрагназаваў магчымую вайну Беларусі і Расіі.**

«Беларусь чакаюць цяжкія часы, — сказаў Прыстайка. — Пару гадоў таму я размаўляў з некалькімі беларускімі журналістамі, і не пад запіс сказаў ім, што калі яны хочуць застацца незалежнымі, іх чакае з Расіяй тая ж вайна, тыя ж цяжкасці і тыя ж пакуты, што маем мы, яны мне не паверылі. Цяпер мо менш сумняюцца».

Журналіст перапытаў украінскага міністра, калі такое можа адбыцца. Прыстайка адказаў, што перадусім хацеў бы памыляцца ў такім прагнозе. «Беларусы спакойныя і трывушчыя, — разважаў міністр. — Але і мы былі спакойнымі і трывушчымі людзьмі — трываеш да моманту, пакуль цябе не пачнуць забіваць. Тады таксама пачынаеш забіваць. Хоць другі мацнейшы, што табе застаецца?» Прыстайка адзначыў: і Лукашэнка дапускаў, што беларускім салдатам давядзецца ваяваць.

Украінскі міністр назваў два варыянты дзеянняў у выпадку нападу Расіі: «З дапамогай замежных партнёраў будзьце разумнымі і спакойнымі — і прайграйце. Або пачніце змагацца проста зараз».

# «Злачынцы» з неўстаноўленых арганізацый

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Сямнаццацігадовы Уладзіслаў Шаркоўскі доўгі час шукаў працу. У інтэрнэце яму прапанавалі стаць кур'ерам і развозіць араматыксы і сумесі для курэння. Хлопец пагадзіўся — і трапіў у пастку.**

### Надзелі кайданкі, білі, аказвалі ціск

— Нейкая неўстаноўленая асоба даслала майму дзіцяці паведамленне наконт працы па распаўсюджанні легальных сумесяў для курэння. Пісалі, што трэба будзе перанесці тавар з аднаго месца ў іншае. Я чытала перапіску — ён некалькі разоў удакладняў, ці не забаронена гэта, яму адказвалі, што ўсё законна, — распавядае мама Уладзіслава Ірына Шаркоўская.

Уладзіслаў пагадзіўся на працу. Хлопцу стала дапамагаць сяброўка. З 1 па 16 сакавіка 2018 года маладыя людзі паспелі зрабіць некалькі даставак прадстаўленага ім пафасаванага рэчыва. Увечары 16 сакавіка Уладзіслава затрымалі, калі ён вяртаўся дадому.

Маці даведалася пра гэта толькі праз пяць гадзін, каля дзвюх ночы, хаця пра затрыманне непаўнагадовага бацькам павінны былі паведаміць адразу.

— Прычым проста пазванілі, сказалі: «Ваш сын затрыманы», і ўсё. Я спытала, за што, мне сказалі — за наркотыкі. У мяне — ступар. Калі я крыху адышла, зразумела — трэба туды ехаць. Перазваньваю, пытаюся, дзе ён знаходзіцца, а мне адказваюць: «Вам раніцай патэлефануюць».

Аказалася, што Улада адвезлі ў РУУС Савецкага раёна, дзе паўтара сутак яго не кармілі, ён спаў на голай бетоннай падлозе. Як пазней даведалася маці, сына ў гэты час білі, аказвалі псіхалагічны ціск. Пад ціскам ён напісаў прадыктаваную расліску, нібыта ён прызнаецца ў здзяйсненні злачынства. Усе пратаколы на яго таксама былі складзеныя ў гэты час. З хлопцам тады не было не толькі законнага прадстаўніка, але і адваката, і педагога-псіхолага (яго ўдзел абавязковы ў справах, датычных непаўнагадовых) — адпаведна, усе ўзятыя ў яго паказанні не маюць юрыдычнай моцы. Але ў выніку ўсё абвінавачанне было пабудаванае менавіта на тых матэрыялах.

— Калі я прыйшла на наступны дзень, дзіця прывялі ў кайданках. Я ўзняла гвалт — чаму непаўнагадовага трымаюць у кайданках, ён нават дакументы не можа падпісаць! Наш бясплатны адвакат адказаў, што яго лічаць злачынцам і гэта нармальна, — распавядае маці.



З гэтай нагоды нядаўна жанчына звярнулася да кіраўніка Міністэрства ўнутраных спраў Юрыя Караева з просьбай аб асабістым прыёме, аднак ёй адмовілі.

### «Сакрэтная інфармацыя» і «неўстаноўленыя асобы»

Увогуле, па словах Ірыны Шаркоўскай, за два гады давялося змяніць пяць адвакатаў. Жанчына пры дапамозе праваабаронцаў знайшла шэраг парушэнняў як беларускага, так і міжнароднага заканадаўства ў справе сына, аднак ніхто з адвакатаў не хацеў разбірацца з гэтым.

Да суда Улада і іншых непаўнагадовых чамусьці адправілі ў жодзінскую турму, і там на іх адразу апранулі робы, хаця прысудаў яшчэ не было. З імі пастаянна сядзелі дарослыя асуджаныя, хаця па законе яны не могуць знаходзіцца ў камеры з непаўнагадовымі. У Жодзіна Улад перанёс прыступ язвы, і з пігулак яму давалі толькі «Но-шпу». Бацькам з вялікімі цяжкасцямі ўдалося перадаць сыну іншыя лекі.

У выніку Уладзіслава Шаркоўскага асудзілі на 10 гадоў калоніі па 4 частцы артыкула 328 Крымінальнага кодэкса (Незаконны з мэтай збыту выраб, перапрацоўка, набыццё, захоўванне, перавозка або перасылка або незаконны збыт наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў або іх прэкурсораў або аналагаў, учыненыя арганізаванай групай). Ірына лічыць прысуд свайму сыну непрапарцыйна жорсткім, і што фактычна яго асудзілі за сувязь па інтэрнэце з «неўсталяванай асобай». У справе Уладзіслава не фігуруюць лабараторыі або лабараторнае абсталяванне, няма грашовых узнагарод, рахункаў, вялікай вагі, ён не з'яўляецца вытворцам, перавозчыкам рэчываў у краіну, арганізатарам наркатрафікаў, стваральнікам інтэрнэт-рэсурсаў...

— За чацвёртую частку праваахоўнікі атрымліваюць нашмат большыя прэміі і «зорачкі», чым за трэцюю, — перакананая Ірына.

У справе Уладзіслава пасля вынясення прысуду застаецца шмат пытанняў. Ірына Шаркоўская спрабавала даведацца, ці закрылі інтэрнэт-краму, з якой сыну даслалі паведамленне. Але на ўсе запыты жанчыне кажуць, што гэта сакрэтная інфармацыя. У той жа час яна ведае — крама працягвае працаваць. Хаця за паўгода да затрымання Улада была арыштаваная і пасля асуджаная група дарослых, звязаных з дзейнасцю гэтай жа крамы.

Ва ўсіх матэрыялах справы і ў прыгаворы суда ўказана, што Уладзіслаў Шаркоўскі з'яўляецца ўдзельнікам арганізаванай і кіраванай неўсталяванай асобай групы. Аднак следства так і не змагло даказаць наяўнасць устойлівай кіраванай арганізаванай групы, роўна як не змагло высветліць імёны іншых удзельнікаў гэтай групы, іх колькасць. Асобы дарослых, якія ўцягнулі маладых людзей у супрацьпраўную дзейнасць, следства таксама не высветліла. Такім чынам, з удзельнікаў «арганізаванай групы» не ўстанавілі і не пакаралі нікога, апроч Уладзіслава і яго сяброўкі, якую таксама асудзілі на 10 гадоў калоніі.

### «Парушэнняў не выяўлена»

Цяпер Улад Шаркоўскі адбывае пакаранне ў ПК-22 у Івацэвічах («Воўчыя норы»), паколькі на час вынясення прысуду яму ўжо споўнілася 18 гадоў. З верасня хлопец пайшоў вучыцца на зваршчыка. Улада нярэдка пазбаўляюць званкоў родным без тлумачэння прычын. Але ў сярэднім па тэлефоне з сынам удаецца паразмаўляць тры разы ў месяц.

— Па законе на званок даецца 15 хвілін, але максімальны час, які нам удалося паразмаўляць, — восем хвілін. Асуджаны сам павінен вызначаць час сканчэння размовы, але я пастаянна чую падчас тэлефанаванняў: «Шаркоўскі, кладзі трубку», — распавядае Ірына.

Больш за 11 гадоў Улад прафесійна займаўся таэквандо, у яго было добрае здароўе. Але на момант затрымання ён хварэў — была тэмпература, балела горла. І больш за два месяцы, пакуль знаходзіўся перад судом у СІЗА і ў жодзінскай турме, ён не мог атрымаць ніякай медыцынскай дапамогі. Праз гэта ў хлопца развіўся цэлы букет хранічных хвароб. З-за інфекцыі ў горле з'явіўся нарост, які не даваў дыхаць і глытаць. Больш за год давялося дабівацца, каб правялі аперацыю і выдалілі яго. Восенню 2019 года на дапамогу прыйшла міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International, якая аб'явіла тэрміновую акцыю ў падтрымку Уладзіслава.

Улад пісаў скаргі, каб на апаратыўнікаў, якія яго збівалі, завялі крымінальную справу. Але ў гэтым яму адмовілі.

Каля васьмі месяцаў Ірына дабівалася магчымасці пазнаёміцца з матэрыяламі праверкі адносна збіцця сына. Жанчына была ў генеральнага пракурора Аляксандра Канюка, які абяцаў разабрацца з парушэннямі. Па выніку яна атрымала адказ, што парушэнняў не выяўлена. Разам з іншымі маці-328 Ірына дамагалася сустрэчы з кіраўніком дзяржавы. Спачатку ім прыходзілі адпіскі, што кіраўнік краіны заняты, а цяпер увогуле нічога не прыходзіць. «Нас ігнаруюць», — кажа жанчына.

### Замест жорсткага пакарання — прафілактыка

Міжнародны цэнтр грамадзянскіх ініцыятыў «Наш дом» у 2018 годзе аб'яднаў групу маці непаўнагадовых, якіх асудзілі па 328-м артыкуле, у суполку «Дзеці-328». Цяпер у ёй больш за 50 чалавек, там можна папрасіць дапамогі. Удзельнікі суполкі звярталіся да беларускіх уладаў і ў міжнародныя структуры, каб дамагчыся справядлівасці адносна прысудаў сваіх дзяцей.

— Мы спрабавалі звяртацца са скаргай на МУС наконт адсутнасці прафілактыкі злачынстваў, звязаных з наркотыкамі. Але ў выніку мы ж і засталіся вінаватымі, таму што не навучылі сваіх дзяцей. Яшчэ і цяпер, калі прыходзім да кагосьці з чыноўнікаў на прыём, чуем папрокі. Хаця ёсць закон, паводле якога МУС павінна праводзіць прафілактыку сярод дзяцей. Але ў школах заўжды казалі толькі пра тое, што можна купіць наркотык і стаць залежным, і ніколі не распавядалі, якім чынам дзяцей уцягваюць у такія злачынствы. Пра гэта сталі казаць толькі пасля нашага суда, — зазначае Ірына Шаркоўская.

Жанчына перакананая, што яе сын, як і многія іншыя непаўнагадовыя, асуджаныя за наркотыкі, трапіў у пастку. Ён стаяў на ўліку ў службе занятасці, але ніхто не хацеў браць на працу непаўнагадовага. У той час у сям'і было складанае становішча, і Улад хацеў проста дапамагчы бацькам. А праваахоўнікі, на думку Ірыны, замест таго, каб правесці прафілактыку, адразу ўжылі карныя механізмы, не зважаючы на абставіны справы.

— Калі б нас адразу выклікалі і ўсё патлумачылі, мы што, не змаглі б данесці да дзіцяці, што гэта супрацьзаконна? — задаецца пытаннем жанчына. — Чаму б не перагледзець справы нашых дзяцей і не перакваліфікаваць іх?

Таксама Ірына зазначае, што многія нормы беларускага заканадаўства ў адносінах да непаўнагадовых састарэлі, і іх неабходна перагледзець. Да таго ж нашая краіна не прытрымліваецца ратыфікаваных ёй міжнародных актаў, у прыватнасці, Канвенцыі аб правах дзіцяці, што прызналі беларускія праваабаронцы.

### Закладнікам сістэмы можа стаць кожны

Актывісткі супольнасці «Дзеці-328» нядаўна звярнуліся ў ААН і ў пасольствы 33 краін з просьбай стаць на абарону правоў беларускіх дзяцей і неадкладна адрэагаваць на шматлікія парушэнні нормаў міжнароднага права ў Беларусі. Яны акцэнтуюць увагу на тым, што з 2014 года, з прыняццем у краіне Дэкрэта кіраўніка дзяржавы №6, антынаркатычнае заканадаўства стала больш жорсткім.

«У прыватнасці, падлеткі, асуджаныя па ч. 4 арт. 328 КК РБ, застаюцца пазбаўленымі права на ўмоўна датэрміновае вызваленне, да іх не ўжываліся амністыя-2019 і зніжэнне ніжняга парога пакарання. Пры гэтым кваліфікуючымі прыкметамі дадзенай часткі, звязанай са збытам наркатычных сродкаў, з'яўляюцца наяўнасць арганізаванай групы або лабараторнага абсталявання. Беларускае правасуддзе фактычна «адкідае» гэтыя прыкметы, мяркуючы дастатковай падставай для вынясення абвінаваўчых прысудаў узгадванне нейкіх «неўстаноўленых» асоб (якімі з'яўляюцца сапраўдныя арганізатары наркабізнесу).

Так, падлеткі становяцца ахвярамі «неўстаноўленых» падбухторшчыкаў — злачынцаў, якія прапануюць «легальны» заробак у інтэрнэце. У многіх выпадках рэсурсы, якія займаюцца супрацьзаконнай дзейнасцю, не блакуюцца праваахоўнымі органамі. На хітрыкі злачынцаў трапляюць новыя ахвяры, якіх лёгка вылічыць і асудзіць на каласальны тэрмін», — падкрэсліваецца на сайце Міжнароднага цэнтра грамадзянскіх ініцыятыў «Наш дом».

Актывісткі зазначаюць, што шматлікія звароты да беларускіх уладаў вынікаў не даюць.

«Між тым, нашы дзеці і мы з'яўляемся закладнікамі дадзенай сітуацыі, якая вядзе да непапраўных наступстваў — а гэта зламаныя лёсы падлеткаў і іх сем'яў, а таксама асобасная дэградацыя. Бо ўмовы ўтрымання ў папраўчых установах не толькі не набліжаныя да прыстойных, а з'яўляюцца абразлівымі для чалавечай годнасці. Велізарныя тэрміны знаходжання нашых дзяцей у падобных установах не пакідаюць ні найменшага шанцу для іх далейшай рэсацыялізацыі ў нашым грамадстве», — канстатуюць маці.

На думку Ірыны Шаркоўскай, да праблемы непрапарцыйна асуджаных непаўнагадовых неабходна прыцягнуць як мага большую ўвагу грамадства, бо толькі сумесная салідарнасць дапаможа змяніць сітуацыю. Таму што ў дзяржаве, дзе пагарджаюць правамі чалавека, ахвярай сістэмы можа стаць кожны.

**Фота Уладзіслава Шаркоўскага прадастаўлена Ірынай Шаркоўскай**

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by



6–7 НАДАІЦЬ «ПА 500»

8 КУДЫ ПАВЯРНУЦЬ МАЛОЧНЫЯ РЭКІ?
АБ'ЁМЫ ВЫТВОРЧАСЦІ МАЛАКА Ў БЕЛАРУСІ ЎТРАЯ ПЕРАКРЫВАЮЦЬ ЯГО СПАЖЫВАННЕ



Фота www.udmurt.media

# Каровіна гора

Павел КІРЫЛАЎ

**Калі ўяўляць эканомікі розных краінаў як чалавечыя арганізмы, то ў венах Беларусі будзе цыркуляваць малако. Малочную прамысловасць можна параўнаць па важнасці з нафтавай. А сярод сельскагаспадарчых вытворчасцяў у малочкі — абсалютная лідарская пазіцыя. Праўда, па выдатках дзяржпадтрымкі таксама.**

Знаходжанне Беларусі ў розных сусветных ТОП-рэйтынгах па вытворчасці малака, экспарце яго і малочных прадуктаў дасягаецца пакуль пераважна валам і ў першую чаргу дзякуючы попыту на расійскім рынку. Эканамічная эфектыўнасць малочнай прамысловасці нізкая, хаця трэба адзначыць, што паказчыкі, хай марудна, але ідуць угару. Аднак мы яшчэ істотна прайграем па шэрагу ключавых красамоўных пазіцыяў сусветным лідарам і, што самае сумнае, нават суседзям.

## Недадойваем

Хаця аб'ёмы вытворчасці беларускага малака апошнія пяць гадоў паступова ўзрастаюць, яна толькі летась дасягнула паказчыкаў апошняга савецкага 1990 года. А вось мэты, прызначаныя ў Дзяржаўнай праграме развіцця аграрнага бізнесу на 2016–2020 гады, ажыццявіць не ўдаецца. І ўжо ясна, што не ўдасца. Напрыклад, у 2018 годзе гаспадаркі ўсіх катэгорый далі 7,3 мільёна тон малака, а планавалася 8,2 мільёна, у 2019-м — 7,4 супраць 8,4. На 2020 год Дзяржпраграма амбіцыйна прадугледжвала атрыманне 9,2 мільёна тон, але ўжо зразумела, што вынік будзе плюс-мінус 7,5 мільёнаў тон. Што тычыцца запланаваных паказчыкаў для рэгіёнаў, то дастаткова блізка да іх падабраліся малочнікі Брэсцкай і Мінскай вобласці. Аўтсайдар жа — Віцебшчына.

Як не парадаксальна, менавіта ў Віцебскай вобласці працуе гаспадарка, якая ўжо некалькі гадоў займае першае месца ў краіне па сярэднім надоі на карову. Гэта — сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў «Ларынаўка» ў Аршанскім раёне. Некалькі гадоў сярэдні надой ад адной каровы тут быў большым за 10 тысяч кілаграмаў малака. Паціху падцягваліся і станавіліся «дзесяцітысячнікамі» іншыя сельгасарганізацыі. Праўда, усяго іх і цяпер менш за дзясятак. Яны на слыху. Напрыклад, «Маладава-Агра» на Брэстчыне і агракамбінат «Сноў» на Міншчыне.

У «Ларынаўцы» ж пастанавілі, каб па выніках 2019 года была ўзята планка ў сярэднім 11 тысяч кілаграмаў малака на карову. «Новы Час» звязаўся з гаспадаркай, і аказалася, што гэтая амбіцыйная планавая лічба дасягнута — 11050 кілаграмаў! Некаторыя каровы там даюць значна болей за гэты агульны рэкорд: тры буронкі надаіліся больш як на 15 тысяч кілаграмаў малака цягам года. Натуральна, гэта крута, але толькі ў межах Беларусі. Сусветны рэкорд — у два з паловай разы большы. Амерыканская карова голштынскай пароды ў штаце Вісконсін у 2017 годзе паставіла рэкорд малочнай прадукцыйнасці на 35 з лішкам тысяч кілаграмаў малака!

А цяпер увага: сярэдні надой ад адной каровы агулам у Беларусі — усяго толькі 5004 кілаграмаў (гэта паказчык за 2018 год). Для параўнання, у суседніх Украіне і Расіі — па 6 тысяч з хвосцікам. На цэлую тысячу болей! У сусветных лідараў надоі большыя ў два разы: Ізраіль — пад 12 тысяч кілаграмаў малака на год у сярэднім ад адной каровы, ЗША і Паўднёвая Карэя — 10–11 тысяч. У Еўропе самыя малочныя каровы ў Даніі — пад 10 тысяч, Нідэрланды — 9, Германія і Вялікабрытанія — па 8…

## Недакормліваем

Адна дацкая карова 20 гадоў таму давала менш за 7 тысяч кілаграмаў малака на год. А ў Ізраілі ўнутраныя патрэбы ў малацэ калісьці амаль цалкам задавальнялі імпартам, — а цяпер яго вытворчасць тут ажыццяўляецца па квотах. Рост вытворчасці адбыўся дзякуючы сучасным тэхналогіям на самых розных этапах жывёлагадоўлі — ад нарыхтоўкі кармавых запасаў да даення. Асабліва ўражвае сусветнае лідарства менавіта Ізраіля, тэрыторыі з засушлівым кліматам, дзве трэціны якой складаюць пустэльні, таму каровам папросту няма дзе пасвіцца, а кармавым травам — расці.

Сакрэты поспеху, напрыклад, такія. Па-першае, гэта вынік працы генетыкаў, скіраванай на ўдасканаленне прадукцыйнасці і доўгажыхарства каровіных малочных парод. Дапамагаюць у гэтым вучоным розныя чыпы і датчыкі, якія збіраюць у адмысловыя племянныя кнігі інфармацыю пра кожную карову: што і колькі яна сёння ела, колькі крокаў зрабіла, колькі часу ляжала, як дыхала, ну і, ясная справа, колькі малака дала. Па-другое, у краіне створана суперсучасная ветэрынарная абслугоўвальная сістэма. Таксама камп'ютарызаваная: ветэрынары на адлегласці сочаць за каровамі і атрымліваюць сігналы пра праблемы.

У Беларусі ж працягваюць скардзіцца на дэфіцыт ветэрынарных кадраў і заатэхнікаў у вясковых гаспадарках, што адбіваецца на здароўі пагалоўя і, адпаведна, надоях. Адна з праблемаў на нашых фермах — такая хвароба буйной рагатай скаціны, як кетоз (або ацэтанімія). Калі каротка, то гэта хвароба абмену рэчываў, якая правакуе парушэнні функцыянавання ўнутраных органаў. Уражлівыя перадусім высокапрадукцыйныя асобіны — надоі могуць зніжацца ўдвая. Таксама цярпіць рэпрадукцыйная функцыя кароваў. Наступствы — аборты і паморкі. Паколькі кетоз пашкоджвае пячонку жывёлін, якая працуе як фільтр на шляху антыбіётыкаў, то тыя могуць трапляць у малако. А гэта — адбракоўка малака або верагодныя скандалы пры яго пастаўках пасля экспертызных праверак.

Галоўная прычына хваробаў — няправільнае і няякаснае кармленне. Праз дрэнныя кармы (напрыклад, з цвіллю) каровы хварэюць і на мікатаксікозы. Адмыслоўцы кажуць, што калі на беларускіх фермах выправіць сітуацыю з кармамі (зрабіць іх бяспечнымі і больш разнастайна-вітамізаванымі), адзін толькі гэты захад дасць надойную прыбаўку ад каровы за адну лактацыю на цэлых 700 кілаграмаў!

Дарэчы, у Ізраілі аснова для кармоў закупляецца за мяжой, і ўжо ў краіне дапаўняецца спецдабаўкамі. Беларускія адмыслоўцы даўно вывучаюць і гэты ізраільскі досвед, але ўкараніць яго не атрымліваецца. Міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Анатоль Хацько перакананы, што генетычны патэнцыял нашых кароваў — на 9 мільёнаў тонаў малака на год у малочна-таварных гаспадарках, і наракае менавіта на кармавую базу як на стрымліваючы чыннік.

## Недаглядаем

Іншая элементарная праблема. Здавалася б, у беларусаў мацца культ парадку. І даказана ж, што надоі, а перадусім якасць малака, таксама залежаць ад дагляду і чысціні на фермах. У згаданым Ізраілі, дзе каровы ўвесь час у стойлах, фермы ўяўляюць сабой своеасаблівыя спа-салоны для скаціны — з клімат-кантролем і душавымі. За ўсё гэта адказвае робатызаванае абсталяванне. А для каровінага мочавыдзялення робяцца адмысловыя дрэнажныя сістэмы, каб потым выраблядь угнаенні. А ў нас у інтэрнэце рэгулярна з'яўляюцца ролікі пра кароваў у страшным брудзе. Памятаеце і леташні гнеў кіраўніка краіны з-за «абасраных» кароваў? Прычым гэта ён быў у паспяховай гаспадарцы. Пасля гэтага кантралёры ўстанавілі амаль паўтары тысячы фактаў загнаенасці памяшканняў для ўтрымання худобы і прылеглых да фермаў тэрыторый, адсутнасці падсцілкавага матэрыялу, а таксама ветэрынарных і заатэхнічных парушэнняў.

Сітуацыю, па задуме ўладаў, павінна выправіць будаўніцтва новых малочна-таварных фермаў (МТФ) і мадэрнізацыя старых. Тады, можа быць, і стане магчымым выкананне свежараспрацаванай Стратэгіі развіцця малочнай галіны, якая прадугледжвае рост вытворчасці малака прыкладна на 25 %. Пакуль што тэмпы мадэрнізацыі кульгаюць, як недагледжаныя каровы ў занядбанай гаспадарцы. Пры канцы мінулага года Лукашэнка выдаў указ пра бюджэтнае выдаткаванне 43 мільёнаў рублёў для завяршэння будаўніцтва або працэсу мадэрнізацыі на паўсотні МТФ.

Цяпер у Беларусі каля 4 тысяч фермаў, з іх асучаснены толькі 40 %. Рэканструяваць усе маральна і фізічна састарэлыя фермы і не варта. Лепш кропкава развіваць паспяховыя, імкнучыся да росту прадукцыйнасці на ўзроўні сусветных лідараў, а не ганючыся за «валам». Тым больш, што немалыя інвестыцыі — зусім не гарантыя істотнага павелічэння надояў і паляпшэння якасці малака. Асабліва калі тэхналогіі, напрыклад, на такім важным этапе, як нарыхтоўка кармоў і ўласна кармленне, застаюцца без істотнага рэфармавання. Так, на шэрагу мадэрнізаваных старых фермаў аб'ёмы атрыманага малака класу экстра, на які пакрысе пераводзіцца наша малочная галіна, не тое што не раслі, а нават заўважна падалі.

Нібыта ў выніку курс узяты на тое, што старыя фермы (а некаторым ужо пад 50 гадоў і яны ледзьве не аварыйныя) будуць папросту зачыняць. А пагалоўе кароваў адтуль будуць пераводзіць на новазбудаваныя малочныя фермы або выкарыстоўваць у мясной жывёлагадоўлі. Для ажыўлення галіны крок слушны, а вось працоўных месцаў у сельскай мясцовасці, асабліва ўлічваючы пашырэнне працэсаў аўтаматызацыі працы, паменее. Гэта яшчэ адна прычына, каб спрыяць сельскаму прадпрымальніцтву.

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

# Малочная праўда

**У гадавым рацыёне беларуса — у сярэднім 250 кілаграмаў малака і малочных прадуктаў. Паводле разлікаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, аптымальнае спажыванне — каля 330 кілаграмаў. Але ж важная не толькі колькасць, але і, — нават перадусім, — якасць. «Новы Час» даведаўся, што павінна быць напісана на пакунках добрых малочных прадуктаў і што адбываецца з малаком на шляху ад каровы да нашага крамнага кошыка.**



Фота www.agulik.ru

Навукова-практычны цэнтр па харчаванні Акадэміі навук Беларусі распрацаваў нацыянальныя Рацыянальныя нормы спажывання харчоў, у тым ліку малака і малочных прадуктаў. Дзеці 1–3 гадоў павінны штогод выпіваць і з'ядаць 275 кілаграмаў малака і вытворнай ад яго ежы. Дашкольнікі 4–6 гадоў — 295 кілаграмаў. Дзеці 7–10 гадоў — 310 кілаграмаў, 11–13 гадоў — 318 кілаграмаў. А падлеткі-хлопцы 14–17 гадоў яшчэ болей — 340 кілаграмаў, дзяўчаты — 325 кілаграмаў. Гэта практычна кілаграм штодня. Але акурат у такім узросце мы крывімся, бо нібыта дарослыя ўжо, і кідаем піць малако, ці не так? Адно што падлеткі могуць налягаць на модныя ёгурты. Што да пажылога пакалення, то жанчынам 60–74 гадоў варта ўжыць цягам года 311 кілаграмаў усялякіх малочнасцяў, а мужчынам такога веку — 322 кілаграмы. Тым, хто мае 75 гадоў і болей, — адпаведна 282 і 309 кілаграмаў.

Для беларусаў і беларусак працаздольнага ўзросту рэкамендаваныя нормы яшчэ большыя, градацыя залежыць ад цяжкасці фізічнай працы. Напрыклад, мужчынам 18–29 гадоў, якія занятыя ў прафесіях з самым высокім каэфіцыентам фізічнай актыўнасці 2,5 (напрыклад, грузчыкі, механізатары падчас пасяўной) адмысловцы раяць харчавацца так, каб у гадавым рацыёне прысутнічалі 610 кілаграмаў малака і малочных прадуктаў! Таксама нікуды не падзелася і выдача малака за шкоднасць — то-бок, за працу ў шкодных умовах. Замяняць малако за шкоднасць могуць толькі сокамі або кісламалочнымі прадуктамі — тым самым кефірам. Грашыма ўзяць нельга (выключэнне — як кампенсацыя за дні камандзіровак), на вынас дамоў — таксама.

Дарэчы, пры канцы мінулага года на Лукомльскай ГРЭС, дзе ёсць цэхі са шкоднымі ўмовамі працы, адбыўся скандал якраз з-за малака за шкоднасць. Раптам працоўным пачалі яго даваць не 3-працэнтнай тлустасці, а 1,5-працэнтнай. Працаўнікі абурыліся «вадзяністасцю» звыклага напою, але высветлілася, што ў адпаведных нарматыўных актах тлустасць малака не прапісана, а карыснасць малака, якая дапамагае знівеляваць шкоднасць, ад тлустасці не залежыць.

## Не ўся смятана — смятана

Што да тлустасці і бялковасці ў складзе малака, то гэта адны з асноўных яго вартасцяў. І фармуюцца яны, натуральна, на жывёлагадоўчых малочных фермах пад уплывам шэрагу фактараў, пачынаючы з тэхналогіі кармлення. Базісныя паказчыкі па тлустасці і бялковасці ў малацэ ў нас прынятыя на ўзроўні адпаведна 3,6 % і 3 %. Фактычна ж яны ў сярэднім па краіне крыху большыя — 3,7 % і 3,05 %. То-бок, менавіта такое малако пастаўля-

---

# Надаіць «па 500»

Сяргей БУЖАЎ

**Заробкі ў сельскай гаспадарцы ў Беларусі традыцыйна адны з самых нізкіх. У 2019 годзе, у прыватнасці, у жывёлагадоўлі, сярэдняя заработная плата склала ўсяго толькі 745 рублёў. Гэта вельмі далёка ад сярэдняга па краіне леташняга заробку — 1090 рублёў. Тым не менш для жыхароў сельскай мясцовасці іншай працы, як на ферме, часцяком папросту няма. Зрэшты, зарабляць на малацэ можна не толькі там. Хочаш — ідзі ў даяркі, а хочаш — вырабляй і прадавай фермерскі тварог.**



Фота www.pinterest.com

У 2000-х многія беларусы задумаліся пра тое, ці не пайсці ім у даяры і даяркі. Гэта калі Лукашэнка ў адным з інтэрв'ю так пахваляўся поспехамі беларускай сельскай гаспадаркі, што паведаміў пра заробак даярак у 600 долараў. На некаторых перадавых фермах такі заробак у аператараў машыннага даення, як афіцыйна называецца даярская праца, сапраўды быў. Але як выключэнне з сумнага правіла: заробкі ў даярак нізкія, а праца — цяжкая. А якая сітуацыя цяпер? «Новы Час» вывучыў актуальныя вакансіі.

Іх шмат па ўсёй Беларусі. Заробак, які прапануецца даяркам, вагаецца ад 400 да 1500 рублёў. Верхняя планка — гэткая ж рэдкасць, як і ў 2000-я. Звычайна такі заробак маюць мужчыны, якія працуюць аператарамі машыннага даення на мадэрнізаваных ці новых фермах. Усё таму, што зарплата аператара машыннага даення залежыць ад аб'ёмаў надояў. Працаваць трэба хутка і прыкладаючы фізічную моц. А прыкласці яе ёсць куды. Даводзіцца цягаць цяжкія мяхі, бо сярод абавязкаў — не толькі даенне, але і кармленне кароваў.

## У асемянатары пайшлі б?

Увогуле спіс дойных уменняў і ведаў вялікі. Гэта даенне не толькі кароваў, але і кабылаў ды авечак. Масаж, падмыванне, выціранне вымя ды іншыя маніпуляцыі, скіраваныя на хуткасць, паўнату малакааддачы, чысціню малака. Праверка жывёлін на мастыт і яго прафілактыка. Падключэнне і адключэнне апаратаў, іх разборка, зборка, прамыўка і дэзынфекцыя. Ахалоджванне малака. Чыстка кармушак і саміх кароваў. Выяўленне кароваў у ахвоце, веданне прыкметаў цяжарнасці і родаў, правілы аказання першай дапамогі асобінам, якія захварэлі...

Калі даенне робатазаванае, то збольшага — націскай кнопкі. На фермах з маральна і фізічна састарэлым абсталяваннем працэс, адпаведна, ідзе больш марудна. Як вынік, даяркі здабываюць менш малака і менш зарабляюць. Пры гэтым працаваць даводзіцца ад 6-й гадзіны раніцы

**Сярэдняя прапанова па вакансіях аператараў машыннага даення цяпер каля 800 рублёў, што адпавядае сярэдняй зарплаце па жывёлагадоўлі паводле Белстата**

да 22-й гадзіны вечара. Гэтак расцягваецца час на тры дойкі з перапынкамі, у якія можна заскочыць дахаты паесці ці крыху паспаць. А яшчэ ж трэба нешта рабіць на прысядзібнай гаспадарцы і ежу дома прыгатаваць!

Ну і, канечне, гэтая праца — не для пераборлівых. Даводзіцца ж мыць кароваў, прыбіраць гной, дыхаць ім. Яшчэ адзін плюс працы на прасунутых фермах — там усталёўваюць душавыя. Улічваючы робатызацыю, даярства выглядае сапраўды аператарствам даення, як і называецца ў афіцыйных дакументах.

Сярэдняя прапанова па вакансіях аператараў машыннага даення цяпер каля 800 рублёў, што адпавядае сярэдняй зарплаце па жывёлагадоўлі паводле дадзеных Белстата. Ідэальна для працадаўцы, калі калектыў фермы папоўніць сям'я — даярка плюс муж-механізатар. Тады гарантавана будзе выдзелена жыллё. Стандартныя патрабаванні выглядаюць так: «Досвед ад аднаго года, дысцыплінаванасць, без шкодных звычак». Апошняе вельмі важна. П'янства — праблема на вёсцы вялікая, у тым ліку сярод жанчын. У выніку бывае, што замяняць працаўнікоў-небаракаў даводзіцца і загадчыцы(-ку) фермы.

Яшчэ адна праца на жывёлагадоўчых фермах не для пераборлівых — аператар па штучным апладненні. Сярэдняя прапанова па такіх вакансіях — пад 1000 рублёў. І гэта вельмі важная прафесія ў адным звяне з заатэхнікам-селекцыянерам і ветэрынарам-гінеколагам. Ад іх залежыць папаўненне пагалоўя. У сярэднім па Беларусі вынік — 75–80 цялят на 100 кароваў. Лепшыя асемянатары маюць вынікам 95–98 цялят. Дарэчы, і тут спецыяльная аўтаматызаваная сістэма дапамагае выяўляць кароваў у ахвоце, прычым робіць гэта кругласуткава. Аднак маецца яна далёка не на ўсіх фермах. Таму асемянатары заўжды вельмі спадзяюцца на падказкі іншых працаўнікоў. За такія важныя паведамленні (а перыяд актыўнай ахвоты можа складаць толькі 8–12 гадзін) гаспадарка можа даплачваць, хоць і самім даяркам выгадна, каб пагалоўе, асабліва высокапрадукцыйных рагуляў, расло.

Навучыцца даіць кароваў можна ў прафесійных ліцэях і каледжах аграрнага кірунку, а на заатэхнікаў — у вышэйшых навучальных установах. Гэта —

еціца з фермаў на малаказаводы. І плацяць яны за яго адпаведна ўзроўням тлустасці і бялковасці. Такі самы падыход і датычна гатункаў малака, а іх некалькі гадоў таму засталося тры замест чатырох: скасавалі другі гатунак, і засталіся першы, вышэйшы і экстра. Задача для малочнай галіны — як мага болей даваць гатунку экстра, але пакуль што малочнікі трошкі не дацягваюць да яго долі ў 50 % ад усяго аб'ёму вытворчасці. Калі пагладзець на рэгіёны, то па гатунку экстра ў лідарах Брэстчына і Віцебшчына, па тлустасці малака — яўная перадавіца зноў жа Брэсцкая вобласць, а па бялковасці — Гродзеншчына і Міншчына.

На вёсцы надоенае малако гаспадыня прапусціць праз марлю — і яно гатовае да спажывання ці вырабніцтва смятаны. На фермах перад транспарціроўкай на малаказавод клопат практычна той самы: малако таксама фільтруюць і ахалоджваюць — да плюс 4 градусаў. Адно што асобны важны клопат — догляд паводле санітарных нормаў разнастайнага абсталявання, з якім судакранаецца сырадой. Ён павінен застацца чыстым па мікрабіялагічных паказчыках. Ад іх і залежыць гатунковасць малака. То-бок, мы часта маем сітуацыю, калі карова дала добрае малако гатунку экстра, але працаўнікі фермы праз нядбайнасць давялі яго да вышэйшага гатунку.

На перапрацоўчых малочных заводах малако праходзіць пастэрызацыю. Пры гэтым вітамінасць прадукту захоўваецца, абяшкоджваюцца толькі хваробатворныя мікраарганізмы. У выніку больш магутных тэрмапрацовак малака яно можа стаць ультрапастэрызаваным і стэрылізаваным. Харчовая вартасць крыху зніжацца, а тэрмін захоўвання павялічыцца на месяцы.

Напэўна, на пакунках вы бачылі надпіс «нармалізаванае малако». Гэта калі малако адной тлустасці змешваецца з малаком іншай тлустасці для атрымання стандартнага прадукту — 1,5-працэнтнага, 2,5-працэнтнага, 3,2-працэнтнага і гэтак далей. Ёсць яшчэ «аднаўленае малако» — яно зроблена з сухога малака або згушчанага, змяшанага з вадой. Канечне, пры сушцы малака многія вітаміны і ферменты знікаюць. Дарэчы, прыкмеце: такога малака на крамных паліцах болей у халодную пару года, калі не хапае малака-сырца. Па сутнасці, з малака спачатку пры пэўным цеплаэрэжыме выціскаюць ваду, а потым дадаюць. Калі вы не будзеце ведаць, што гэта малако аднаўленае з парашку, ад звычайнага вы яго не адрозніце.

Важным для спажыўцоў стала завяршэнне ў мінулым годзе пераходнага этапу па ўкараненні ў практыку тэхнічнага рэгламенту Еўразійскай эканамічнай супольнасці «Пра бяспеку малака і малочных прадуктаў». Цяпер вытворцы «малочкі» з выкарыстаннем раслінных тлушчаў не могуць камуфляваць гэта на таварных пакунках, а павінны пісаць усю праўду. Гэта азначае — пазначаць звесткі пра наяўнасць раслінных тлушчаў, якія замяняюць у прадукце з утрыманнем малака ўласна малочныя тлушчы. Найменне такога прадукту на ўпакоўцы павінна выглядаць, напрыклад, так: «Прадукт, што ўтрымлівае малако, з заменнікам малочнага тлушчу, выраблены па тэхналогіі сыра (смятаны і так далей)». Выключэнні — сметанкова-раслінны спрэд, сметанкова-раслінная топленая сумесь, марозіва з заменнікам малочнага тлушчу. Нельга выкарыстоўваць словы кшталту «сырападобны», «сырны», «сыраробны», а таксама зменшальныя формы «смятанка», «тваражок», «масліца». Затое дазволена характарызаваць такія сурагаты паводле кансістэнцыі — крэм, соус, паста. Пры ўсім пры гэтым раслінныя алеі могуць замяняць натуральны малочны тлушч толькі на 50 %.

**Расякасць праверыла сухія дзіцячыя сумесі. Даследавалася 21 марка, у тым ліку «Беллакт оптымум 1». І перамагла: прызнаная «самым якасным прадуктам, які адпавядае аперaджальным стандартам»**

Гэты тэхрэгламент пралабіравалі якраз беларускі бок, бо ў нашай краіне да яго ўвядзення вырабніцтва такой прадукцыі складала меней за 1 % ад усёй малочкі.

### «Беллакт» — лепшая сумесь для дзяцей?

На жаль, у Беларусі на сталай аснове не праводзіцца публічных рэйтынгавых экспертыз рознага харчавання. У адрозненне ад суседняй Расіі. Прычым там арганізацыі Раскантроль і Расякасць рэгулярна ўключаюць у свае даследаванні і некалькі ўзораў прадукцыі беларускіх вытворцаў. Летась было праведзена адразу некалькі даследаванняў малочных прадуктаў. Якасць і натуральнасць беларускай малочкі пацвярджалася, але не заўжды.

Раскантроль апублікаваў увосень вынікі праверкі згушчонкі. У тым ліку нашых — рагачоўскай і глыбоцкай. У Беларусі спрэчкі наконт таго, якая з іх найлепшая, не спыняюцца. Па выніках жа расійскага тэставання рагачоўскае згушчанае малако заняло 2 месца сярод 13 брэндаў, а вось глыбоцкае — апошняе. Што не так? Раскантроль адзначае, што па масавай долі тлушчу глыбоцкая згушчонка не адпавядае найменню «цэльнае згушчанае малако». Таксама па гэтым паказчыку і вязкасці нібыта не адпавядае стандарту, пазначанаму на маркіроўцы. Як і «група чысціні». А вось патрабаванням бяспекі адпавядае.

Гэтая ж спажывецкая арганізацыя праверыла сярод расійскіх марак 20-працэнтнай смятаны і беларускія «Брэст-Літоўск», а таксама «Прастаквашына». З першай, паводле высновы Раскантролю, усё добра, апроч несапраўднай маркіроўкі што да ўтрымання бялку. А вось другую адправілі ў «чорны спіс»: маўляў, не адпавядае найменню «смятана» і пазначанаму на маркіроўцы складу, бо ўтрымлівае крухмал. А яшчэ непраўдзіва пазначаны бялок і тлушч.

Расякасць праверыла сухія дзіцячыя сумесі. Даследавалася 21 марка, у тым ліку ваўкавыская сумесь «Беллакт оптымум 1». І перамагла: прызнаная «самым якасным прадуктам, які адпавядае апераджальным стандартам». А, між тым, канкурэнцыю падчас гэтай экспертызы беларускай сумесі складалі Bebi Premium і Similac (Данія), Frisolac Gold і Frisolac (Нідэрланды), Humana Expert (Германія), Nutrilon Premium (Ірландыя). Прычым сумесь ад «Беллакту» каштавала танней за Frisolac, які заняў апошняе месца. Эксперты зрабілі выснову, што пры выбары сумесі кошт не з'яўляецца вырашальным фактарам.

Між тым, на розных беларускіх сайтах, дзе збіраюцца водгукі спажыўцоў, прадукцыя «Беллакту» зазнае вялікую крытыку з боку маці. Стэрэатыпы? Пра што сведчыць ваш досвед?

Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт, Віцебская дзяржаўная акадэмія ветэрынарнай медыцыны і Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія ў Горках на Магілёўшчыне. Яшчэ дзейнічае Цэнтр павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў і спецыялістаў пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання. Тут прапануюць і праграмы падрыхтоўкі па рабочых прафесіях — у тым ліку, па прафесіі аператара машыннага даення і трактарыста-машыніста. Натуральна, механізатары на фермах таксама запатрабаваныя.

Больш за тое: паводле дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у сельскай мясцовасці сярод рабочых прафесій самы вялікі дэфіцыт якраз трактарыстаў. На 1 студзеня 2020 года было амаль 1500 вакансіяў. Не хапае і кіроўцаў аўтамабіляў — 1200 вакансіяў, затым аператараў машыннага даення — 850, а таксама жывёлаводаў — 700 вакансіяў. Так што працу даяркай ці даяром знайсці, пакуль фермамі яшчэ не кіруюць робаты, нескладана. Сярод спецыялістаў больш за ўсё не хапае ветэрынарных лекараў — кадравы дэфіцыт складае 500 асобаў. І па ўсёй Беларусі гаспадаркі шукаюць 400 заатэхнікаў. Заробкі на малакаперапрацоўчых прадпрыемствах не пераўзыходзяць зарплаты на фермах. Напрыклад, на Мінскі малочны завод шукаюць: тэхнолага — на 1500 рублёў, кухоннага рабочага — 1000, мерчандайзера — да 1000, маркетолага — на 900, слесара — на 800 рублёў.

### Ідэя бізнесу — малакаматы

А як стаць малочнікам-прадпрымальнікам? Працей за ўсё зрабіць гэта фермерам, якія могуць зарабляць і на продажы малака, і на вырабе малочных прадуктаў (смятаны і тварагу). Рэалізоўваць можна або на рынках, або праз службы дастаўкі. Вашымі кліентамі ў такім выпадку будуць прыхільнікі здаровага ладу жыцця, якія перайшлі на экаежу, у тым ліку фермерскую.

Жыхары сельскай мясцовасці могуць трымаць некалькі кароваў і здаваць малако ад іх на малаказавод. Звычайна ў кожнай мясцовасці ёсць прадпрымальнікі, якія ездзяць па вёсках і збіраюць у сялян сырадой, завозячы яго перапрацоўшчыкам. Так што пра транспарт галава балець не будзе. Ёсць пэўныя правілы такога збыту малака. Апошнім часам патрабаванні да прыёму малака ад насельніцтва сталі больш жорсткія. Малако некалькі разоў на месяц лабараторна правяраецца на тлустасць, шчыльнасць і так далей. Каровы павінны быць унесены ў рэестр сельскагаспадарчых жывёлаў і рэгулярна абследавацца ветэрынарамі. Здаваць малако трэба без механічных дамешкаў і ахалоджаным. Пры выяўленні парушэнняў гаспадара выключаць са спісу здатчыкаў малака.


Фота www.ganc-chas.by



Фота www.molreki32.ru

Грошы за здадзенае малако пералічаюць на картку штодэкадна. Колькі можна зарабіць? На вёсках трымаюць не надта высокапрадукцыйных кароваў, нешта будзе пакідацца з надояў сабе, але можна ўявіць, што вы зможаце здаваць хай па 15 літраў ад адной каровы на дзень. Калі за літр малака базіснай тлустасці 3,6 % плацяць каля 50 капеек, то гэта 7,5 рубля прыбытку штодня.

**Як стаць малочнікам-прадпрымальнікам? Працей за ўсё зрабіць гэта фермерам, якія могуць зарабляць і на продажы малака, і на вырабе малочных прадуктаў (смятаны і тварагу)**

У месяц атрымліваецца каля 100 долараў. Трымайце пяць кароваў — і забяспечце самі сабе «па 500»!

Яшчэ цікавая ідэя малочнага бізнесу — малакаматы — вендынгавыя аўтаматы па продажу малака. Вашымі пастаўшчыкамі маглі б стаць тыя самыя фермеры, у якіх малаказаводы не бяруць прадукцыю праз малыя аб'ёмы. Цана можа быць ніжэй за крамную, бо без тратаў на фасоўку і апрацоўку пастэрызацыяй. А пры гэтым з малакаматаў спажыўцы атрымлівалі б самы што ні на ёсць натурпрадукт. Па інфармацыі «Новага Часу», некаторыя фермеры спрабавалі запусціць такі бізнес, але не ўдалося праз цэлы стос бюракратычных і санітарна-тэхнічных складанасцяў. Ужо не кажучы пра тое, што сырадой доўга не жыве, а попыт спрагназаваць складана. А каштуюць малакаматы нятанна і ў абслугоўванні не такія простыя, як прымітыўны аўтамат-цукернік ці нават кава-аўтамат. Хаця пагладзець на канкурэнцыю прадукцыі малаказаводаў было б як мінімум цікава.




Фота www.milkua.info

Фота www.intex-press.by

# Куды павярнуць малочныя рэкі?

Кірыла ПАЗНЯК

**Аб'ёмы вытворчасці малака ў Беларусі ўтрая перакрываюць яго спажыванне.**

Мы прадукуем 775 кілаграмаў малака на душу насельніцтва, а выпіваем-з'ядаем 250 кілаграмаў малочнай прадукцыі. Астатняе, большая частка, прадаецца за мяжу. І ў планах — павялічваць экспарт, дыверсіфікуючы пастаўкі, бо расійскі рынак для нас будзе звужацца.

У 2019 годзе беларускія прадпрыемствы экспартавалі сельскагаспадарчай прадукцыі і прадуктаў харчавання на 5,5 мільярдаў долараў. Рост у параўнанні з 2018 годам склаў салідныя 4,5 %. Самая вялікая экспартная прыбаўка ў грашовым эквіваленце акурат па малаку і малочнай прадукцыі — 310 мільёнаў долараў. Другая пазіцыя па росце ў рапсавага алею — 35 мільёнаў долараў.

Сёлета ў планах Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання — захаваць тэмпы росту па сельскагаспадарчым экспарце. І менавіта малочка разглядаецца, паводле чыноўнікаў Мінсельгасхарчу, «асноўным драйверам росту». Павінна расці прадукцыйнасць кароваў на мадэрнізаваных і новых фермах. Мусяць захавацца, па прагнозах аналітыкаў, на сусветным рынку і высокія кошты на малако і малочныя прадукты. Спрыяльны для беларускай эканомікі агулам і сельскай гаспадаркі ў прыватнасці прагноз тычыцца сусветнага спажывання малака. Прычым ён прыемны сваёй доўгатэрміновасцю. Цяпер у свеце спажываецца 117 кілаграмаў малочнай прадукцыі на душу насельніцтва, а ў 2030 годзе ў сувязі з павелічэннем колькасці людзей і, адпаведна, попыту, гэты паказчык павінен скласці 132 кілаграмы, а ў 2040-м — 140 кілаграмаў. Таму дбаць пра малочную галіну ўлады Беларусі павінны не менш, чым пра IT-сферу. Тым болей, што нафта і газ з нашых нетраў усё ніяк не прарываюцца — насуперак неаднаразова публічна выказанаму жаданню Аляксандра Лукашэнкі. Карацей, няма цудаў з «чорным золатам» — давайце множыць «белае золата».

### Малочныя войны

Па экспартных продажах малочкі Беларусь знаходзіцца сярод сусветных лідараў, прычым па шэрагу пазіцыяў (масла, сыр, тварог і сухое малако) трапляе нават у ТОП-5. Нескладана здагадацца, што асноўныя пастаўкі за мяжу прыпадаюць на расійскі рынак. І, каб не малочныя войны з заклятым саюзнікам, валютная аддача ад малочкі была б яшчэ большай. Так, цягам 2018–2019 гадоў практычна ўсе беларускія прадпрыемствы малакаперапрацоўчай галіны пабывалі ў санкцыйных спісах расійскай Федэральнай службы па ветэрынарным і фітасанітарным наглядзе (Расельгаснагляду). Прычым на пастаўкі малака налівам абмежаванні доўжыліся па паўгода і болей. Была магчымасць прадаваць толькі па-спажывецку пакаваную прадукцыю.

**Малочныя войны — з'ява рэгулярная і з палітычнай падкладкай. А рыхтавацца трэба да часоў, калі Расія пачне сама забяспечваць свае патрэбы ў малацэ і малочных прадуктах. На гэта нацэлена яе адмысловая дзяржпраграма**

Апроч таго, што расійскі бок нібыта знаходзіў у нашым малацэ ці то бактэрыі, ці то нітраты, ці то антыбіётыкі, гучалі закіды і ў прыналежнасці да фальсіфікаванай прадукцыі, якой у Расіі рэалізуецца на дзіва шмат. Апошнія некалькі гадоў доля фальсіфікату ў малочнай прадукцыі там складае блізу 20%! Маўляў, беларуская ветслужба на вонкавай мяжы Еўразійскай эканамічнай супольнасці або бярэ ўдзел у незаконных схемах, або недастаткова пільна працуе. У выніку адна са схемаў выглядае так. Маўляў, значная частка малочных паставак з Беларусі ў Казахстан, Кыргызстан і Арменію датуль не даязджала. Гаворка пра сухое малако, увоз якога ў саму Расію часова абмяжоўваўся. Але тое, якое ехала транзітам у памянёныя краіны, «гублялася» на расійскіх абшарах, а затым з яго выраблялі фальсіфікаваныя малочныя прадукты, небяспечныя для здароўя.

Зрэшты, малочныя войны — з'ява рэгулярная і з палітычнай падкладкай. А рыхтавацца трэба да часоў, калі Расія пачне сама забяспечваць свае патрэбы ў малацэ і малочных прадуктах. На гэта нацэлена яе адмысловая дзяржпраграма. Цяпер там сваёй вытворчасцю задавальняюць 80 % унутраных патрэбаў, і вытворчыя аб'ёмы ўвесь час растуць. Пры тым, што спажыванне малака сярод расіянаў зніжаецца — цяпер гэта 225 кілаграмаў на год супраць, нагадаем, нашых 250-ці. Разам з тым беларусаў цясняць Новая Зеландыя, Уругвай і Аргентына.

Па прагнозах расійскага Нацыянальнага саюза вытворцаў малака (Саюзмалако), на самазабеспячэнне Расія выйдзе прыкладна да 2025 года.

Да гэтага часу Беларусь павінна грунтоўна дыверсіфікаваць малочны пастаўкі. І асабліва цікавы тут Кітай. Ужо ёсць пэўныя поспехі ў гэтым кірунку — калі не па аб'ёмах, то па дынаміцы. Продажы беларускага малака і малочных прадуктаў у 2018 і 2019 гадах маюць больш як 10-разовы рост. Нашы экспарцёры, у прыватнасці, удала скарыстоўваюць гандлёвыя вайны паміж Паднябеснай і ЗША — адным з лідараў па вытворчасці і экспарце малочкі. Вызваляюцца нішы і тады, калі нейкая з буйных перапрацоўчых кампаній-экспарцёраў крызісуе.

Напрыклад, на пачатку гэтага года з'явілася інфармацыя пра банкруцтва аднаго з самых буйных і старых амерыканскіх холдынгаў Borden Dairy Company. Канечне, на рынак ЗША нам не зайсці — Borden заменяць іншыя тамтэйшыя прадпрыемствы. Аднак гэты прыклад паказвае, што ўсе гульцы на малочным рынку свету ўразлівыя, і канкурэнты гатовы скарыстацца сітуацыяй. Borden жа, які дзейнічаў на працягу 150 гадоў і аб'ядноўваў тузін малочных заводаў, пацярпеў праз тое, што спажыванне малака на душу насельніцтва ў ЗША за апошнія два дзесяцігоддзі абвалілася на чвэрць. У выніку згаданая кампанія ў 2018 годзе атрымала ўраджальныя 1,2 мільярда выручкі, аднак чыстыя страты склалі амаль 15 мільёнаў долараў, а ў 2019-м яны ўжо сягнулі за 40 мільёнаў долараў.

### Курс на ўзбуйненне

Дарэчы, па вытворцах і перапрацоўшчыках малака сур'ёзна б'юць розныя інфармацыйныя кампаніі пра негатыўныя наступствы спажывання малочных прадуктаў. Напаўжартам адзначым, што і кіраўніку Беларусі трэба быць асцярожным у выказваннях, калі ён дбае пра развіццё айчыннай малочнай галіны. А то распавядае, што мае міні-ферму з дзясяткам кароваў і тут жа кажа, што малако ў сувязі з узростам ужо не п'е. Увогуле ж, карысць для здароўя і якасць малака з малочнымі прадуктамі як такая, у тым ліку дзіцячае харчаванне, — асобная сур'ёзная тэма. Асноўны ж негатыўны ўплыў на спажыўцоў, калі браць Расію, аказала інфармацыя пра малочны фальсіфікат, а таксама зніжэнне даходаў насельніцтва, якое адбілася на куплі так званых складаных і таму больш дарагіх малочных прадуктаў (напрыклад, сыру).

Развіццё расійскіх брэндаў, безумоўна, і ўтанніць мясцовую малочку, і разам з тым падвысіць яе якасць. Усё гэта разам з піяр-кампаніямі складзе сур'ёзную канкурэнцыю нашай малочцы, якая пакуль што трымае высокі ўзровень попыту дзякуючы якраз рэпутацыі пра самую добрую якасць. Нездарма і ў Расіі, і ва Украіне мясцовыя малочныя вырабы нярэдка выдаюць за «Зроблена ў Беларусі». Тэндэнцыя ў Расіі такая, што вытворцы сырадою збіраюцца стаць як яго перапрацоўшчыкамі, так і вырабнікамі гатовай прадукцыі. У выніку адбудзецца перападзел малочнага рынку. Гэта пытанне 5–10-ці гадоў.

У Беларусі таксама назіраецца тэндэнцыя на ўзбуйненне кампаній-гульцоў малочнага бізнесу. Толькі ў нас наадварот — перапрацоўчыя прадпрыемствы пачынаюць займацца сыравінай, завалодваць сельгасактывамі, то-бок фермамі. Такім чынам яны маюць магчымасць атрымліваць гарантавана якасную сыравіну па больш нізкіх коштах. І Мінсельгасхарч задаволены, што новыя або мадэрнізаваныя фермы кіруюцца эфектыўнымі менеджарамі ў паўнацыклавым прамысловым ланцужку, калі гаворка вядзецца пра паспяховыя малаказаводы з пераважнай доляй дзяржавы.

Рэйтынг малочных кампаній нашай краіны ўзначальвае прыватная фірма — «Савушкін прадукт» алігарха Аляксандра Машэнскага з асноўнай пляцоўкай у Брэсце. Яна паступова скупляе ў дзяржавы іншыя заводы, прычым з ТОП-10 па прыбытках. Так нядаўна сталася з Бярозаўскім сыраробным камбінатам, Аршанскім малочным камбінатам, а пры самым канцы снежня 2019 года — з Баранавіцкім малочным камбінатам. Як у Беларусі заведзена, пад шэраг умоваў. Так, баранавіцкае прадпрыемства дасталося «Савушкіну» за гарантыю інвеставання туды 10 мільёнаў рублёў і павелічэння вырабу сыроў, а таксама захавання колькасці працаўнікоў і іх заробкаў мінімум на леташнім узроўні. Сярод лідараў галіны таксама гродзенскі «Малочны свет», Мінскі малочны камбінат № 1, Кобрынскі масларобна-сыраробны завод, ваўкавыскі «Беллакт». Узбуйняюцца і дзяржаўныя прадпрыемствы: да «Малочнага свету» нядаўна быў далучаны Шчучынскі масласырзавод, а Лідскі малочна-кансервавы камбінат зліўся з «Навагрудскімі дарамі».

# А гей-та несапраўдны?!

Алег НОВІКАЎ

**Нечаканы поспех Піта Бутыджыча на першых праймерыз дэмакратаў выклікаў негатыўную рэакцыю значнай часткі амерыканскай ЛГБТ-супольнасці і заканамерныя пагрозы з боку гамафобаў.**



Фота www.glasamerike.net

Срэбра на праймерыз у Аёве і срэбра ў Нью-Гэмпшыры. Прычым з невялікай дыстанцыяй ад пераможцы. Наўрад ці сам 38-гадовы Бутыджыч, мэр горада Саўт-Бэнд, мог чакаць такога трыумфу. Асабліва яскравыя яго поспехі на фоне правалу фаварытаў — Элізабэт Эн Уорэн і Джо Байдэна, якія павінны былі скласці канкурэнцыю сацыялісту Бэрні Сандэрсу — пераможцу абодвух праймерыз. Ужо пайшлі чуткі пра тое, што асцерагаючыся перамогі сацыяліста, істэблішмент дэмпартыі можа падтрымаць адкрытага гея, якім з'яўляецца Бутыджыч.

Зрэшты, не абыйшлося для Бутыджыча ў тым жа Нью-Гэмпшыры без непрыемных інцыдэнтаў. Напрыклад, невялікі скандал меў месца ў гей-клубе Dark Lady («Цёмная лэдзі»), дзе планавалася правесці яго сустрэчу з выбаршчыкамі. Імпрэзу ў выніку давялося перанесці з-за наяўнасці ў холе... шосту для танцаў. Заўзятары клуба адмовіліся прыбіраць шост, як патрабавалі арганізатары сустрэчы. Пазней наведвальнікі ўстановы прывялі гэты канфлікт як доказ таго, што Бутыджыч — няправільны гей (not gay enough). Але кандыдат ахвотна сфатаграфаваўся побач з тым шостам.

Пакуль Бутыджыч прымаў віншаванні ў Аёве і Нью-Гэмпшыры, у амерыканскай ЛГБТ-камуне сфарміравалася цэлыя фракцыя яго крытыкаў. На іх думку, існуе рызыка, што грамаду будзе прэзентаваць чалавек, які не вельмі пасуе каштоўнасцям субкультуры.

На першы погляд, такая пазіцыя занадта пурытанская. Як бы не ставіцца да ЛГБТ, ужо сама балаціроўка адкрытага гея ў прэзідэнты — гістарычны прэцэдэнт. Не кажучы пра тое, што Бутыджыч у выпадку перамогі абяцае сапраўдны пераварот у дзяржаўнай палітыцы адносна сексуальных меншасцяў — аж да стварэння асобнай дзяржаўнай службы аховы гэтай катэгорыі грамадзян ад гвалту з боку ксенафобаў.

Аднак ёсць на палітыка і кампрамат. Высвятляецца, што нават пасля свайго камінг-аўту ў 2017-м бургамістр Саўт-Бэнду не гарэў вялікім жаданнем абараняць інтарэсы мясцовай камуны ЛГБТ і апературыў рэагаваць на іх кампаніі. Чамусьці падазрэнне наконт няшчырасці Бутыджыча ўзмацняе яго гарвардскі дыплом — сімвал прыналежнасці да эліты. Так ці інакш, паводле апытанняў прадстаўнікоў ЛГБТ, імя Піт Бутыджыч выклікае ў кожнага трэцяга фрустрацыю або падазрэнне, што нехта хоча яго выкарыстаць.

Як адзначае выданне Vox, пакуль няма адказу на пытанне, ці сапраўды Бутыджыч будзе змагацца за інтарэсы тых, хто

**Як бы не ставіцца да ЛГБТ, ужо сама балаціроўка адкрытага гея ў прэзідэнты — гістарычны прэцэдэнт. Не кажучы, што Бутыджыч абяцае сапраўдны пераварот у дзяржаўнай палітыцы адносна секс-меншасцяў**

мае меншыя прывілеі, чым ён? Скептычна ставіцца да палітыка і частка прагрэсіўнай прэсы. Адзначаецца, што гамафобія застаецца значным фактарам для выбаршчыка. 37 % апытаных аўтарытэтным часопісам Politico ў мінулым годзе заявілі, што не гатовыя да прэзідэнта — адкрытага гея. На думку некаторых палітолагаў, пераадольваць гэты забабон трэба асцярожна, мажліва, праз прыход у Белы дом жанчыны-прэзідэнта.

У гэтым плане кампанія Бутыджыча вельмі авантурная. Зрэшты, магчыма, гэта і спадабаецца публіцы. Як адзначае брытанскі The Guardian, атачэнню Бутыджыча «плявацьна яго сексуальную арыентацыю». Значна больш іх цікавіць, ці можа гэты палітык «прыўнесці больш здаровага сэнсу ў Белы дом». Выданне робіць акцэнт на тым, што сталыя грамадзяне ЗША і тыя, хто прытрымліваецца ўмераных поглядаў, наўрад ці пазітыўна ацэняць абмеркаванне сексуальных пераваг кіраўніка нацыі. А цяперашняй моладзі гэтая тэма ўвогуле абыякавая.

А вось кансерватары не ламаюць галавы наконт сексуальнай прыналежнасці прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта. Для іх ён вораг. Таму навіны з праймерыз дэмакратаў яшчэ больш цэментавалі правы электарат вакол фігуры Трампа, які выстаўляе сябе змагаром за кансерватыўныя каштоўнасці. Дарэчы, гэта вельмі рэдкі выпадак. Звычайна амерыканскія прэзідэнты, якія ідуць на другі тэрмін, намагаюцца рабіць сабе рэнаме прадстаўніка ўсёй нацыі, а не распальваюць нянавісць на адрас другой часткі выбаршчыкаў.

Увогуле, сам Трамп у мінулым быў яшчэ тым плейбоем. Таму яго спробы стварыць сабе обліка-марале выглядаюць, хутчэй, як выбарчая піяр-тэхналогія. А вось для шараговых кансерватараў усё куды больш сур'ёзна. Як прыклад, апературыўная навіна ад кансерватыўнага выдання Charisma News пра пастанову кіраўніцтва секты Holy Fire Ministries. «У імя ідэяў прагрэсу ў нас ёсць кандыдат у прэзідэнты, у якога ёсць муж, якога ён публічна цалуе без сораму, а мільёны амерыканцаў апладзіруюць і ўхваляюць гэта. На самай справе тыя, хто практыкуе такія рэчы, заслугоўваюць смерці, як і тыя, хто ўхваляе тых, хто іх выконвае (Рым 1:32)».

Вось так Піт Бутыджыч умудрыўся за пару тыдняў нажыць сябе смяротных ворагаў і сярод геяў, і сярод гамафобаў. Някепскі старт. І, думаецца, па ходзе выбарчай кампаніі яшчэ не тое будзе.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ТУРКМЕНІСТАН. Як змагацца з чэргамі?

Калі верыць туркменскім незалежным медыя, у Ашхабадзе прыдумалі, як ліквідаваць такую візуальна брыдкую з'яву, як доўгія вулічныя чэргі ў крамы. Туркменістан ужо каля трох гадоў перажывае эканамічныя цяжкасці, што суправаджаюцца недахопам у дзяржаўных крамах асноўных прадуктаў: мукі, хлеба, цукру, алею і гэтак далей. Не дзіўна, што каля крамаў з'яўляюцца велізарныя чэргі, якія, акрамя ўсяго, ператвараюцца ў стыхійныя гайд-паркі. І вось нарэшце прыдумана «магічная формула», пры дапамозе якой пытанне з чэргамі на вуліцах будзе вырашана. Паводле новых правілаў, цяпер пакупнік павінен спачатку пагрукаць у дзверы крамы. Яму адчыняе супрацоўнік і просіць прайсці на задні двор. Там і фарміруецца чарга, якая, хутчэй, нагадвае натоўп у некалькі дзясяткаў чалавек. Не вельмі камфортную сітуацыю кіраўніцтва крамаў прапануе кампенсаваць цытатай з цыркуляра чыноўнікаў: «Госці Туркменістана не павінны бачыць гурмы людзей каля прадуктовых крамаў».

**Паводле туркменскай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. Сакрэты затлусцення ў жанчын

Як вядома, кансерватары даўно шукаюць вытокі ўсіх праблем асобы ў антымаральных мадэлях яе паводзін. Гэтай логікай, відавочна, кіраваўся і венгерскі фітнес-гуру Норберт Шоберт. На сваёй афіцыйнай старонцы ў Facebook ён зрабіў выснову, што жанчыны пасля разводу хутчэй набіраюць празмерную вагу. Карацей: хочаш быць у цудоўнай фізічнай форме — трымайся сямейных каштоўнасцяў. Такое вынаходніцтва выклікала смех у феміністак і культуролагаў, паколькі стандарты жаночага хараства цягам гісторыі былі рознымі. Аднак гэта быў толькі пралог скандалу. Хутка выявілася, што жонкі шматлікіх венгерскіх кансерватараў наўрад ці могуць пахваліцца ідэальнай фігурай. Гэта аўтаматычна дае падставу падазраваць іх у сямейнай нявернасці ў мінулым. Кансерватыўная грамадскасць і нават палітыкі з розных партый былі вымушаныя асудзіць «ганебныя» каментары Шоберта. А адзін з венгерскіх хрысціянскіх дэмакратаў прапанаваў цікавы тэзіс. Па яго словах, любая фізічная форма чалавека была «прадумана Богам».

**Паводле венгерскай прэсы**

### ЛІВАН. Краіна пераходзіць на долар?

Ліван можа папоўніць клуб краінаў, што адмовіліся ад нацыянальнай валюты, функцыі якой выконвае амерыканскі долар. На цяперашні дзень туды ўваходзяць, акрамя мікраскапічных выспаў, Эквадор, Сальвадор, Зімбабвэ і Панама. Інсінуацыі пра тое, што Ліван можа пайсці шляхам вышэйпералічаных краін, гучаць даўно праз зацяжны абвал мясцовай валюты. Курс долара на працягу палітычнага крызісу, што перажывае краіна, дасягнуў ужо 2 тысяч ліванскіх фунтаў. Першым здалі нервы ў МЕА — мясцовага аналагу нашай кампаніі «Белавія», якая вырашыла прадаваць білеты з гэтага панядзелка выключна за долары. Рэакцыя была чаканай. Хаця пра новыя правілы паведамілі ў нядзелю, 16 лютага, велізарны натоўп ліванцаў адразу накіраваўся ў аэрапорт, каб паспець набыць квіткі за ліванскія грошы. Адначасова пачалі гучаць палітычныя заявы. Частка дзеячаў не зразумела, як МЕА, будучы нацыянальнай кампаніяй, адмаўляецца працаваць з ліванскай валютай. У выніку зранку 17 лютага прэм'ер запатрабаваў ад дырэкцыі МЕА перагледзець сваё рашэнне. Аднак стабільнасць на валютны рынак не вярнулася, а плёткі пра пераход на долар не спыніліся. Тым больш, што ў Ліване практычна ўсё гатова да даларызацыі гаспадаркі, бо долар прымаюць нароўні з фунтам вельмі даўно.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Горад Пі, што на Няве

Карыстальнікі Рунэту не прайшлі міма незвычайнай ініцыятывы дэпутата заканадаўчага сходу Ленінградскай вобласці Уладзіміра Пятрова. Апошні прапанаваў перайменаваць Санкт-Пецярбург у Пецярбург і замацаваць гэтую рэформу ў Канстытуцыі. Сам парламентарый тлумачыць сваю прапанову тым, што прамаўляць прыстаўку «Санкт-» занадта цяжка. Гэты аргумент і выклікаў мноства каментароў: «Што ж, давайце тады скароцім назву горада да адной прыстаўкі. Горад Санкт. Ці нават Сан. І будзе прыгожа». «Пецярбург таксама доўга казаць. Лепш проста Пі!», — іранізуюць у сецівe. Ёсць і тыя, хто за вяртанне гораду на Няве назвы Петраград — так яго назвалі пасля пачатку Першай сусветнай у межах кампаніі з германізмамі. Людзям таксама незразумела, пры чым тут Канстытуцыя і новая назва Санкт-Пецярбурга? На іх думку, гэтак можна і назвы станцый метро ў Канстытуцыі замацоўваць. У любым выпадку відавочна, што канстытуцыйныя папраўкі Пуціна сталі для расійскіх палітыкаў пляцоўкай для асабістай рэкламы за кошт самых неверагодных прапаноў. І наўрад ці ідэя Пятрова — гэта фінал.

**Паводле расійскай прэсы**

# «Калі чую “Купалінку”, адчуваю, што гэта сваё»

**Ад рэдакцыі:**

Акурат напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы набыла шырокі розгалас гісторыя АрамаісаМіракяна, які замовіў у Мінску гарбату па-беларуску, а ў выніку трапіў ледзь не ў міжнародны скандал. Пазней высветлілася, што гарбату замаўляў не Арамаіс, а яго сябра. Але сутнасць гісторыі ад гэтага не змянілася. Беларускамоўныя ў Беларусі сутыкаюцца не проста з непаразуменнем, а часам з адкрытым хамствам. Бывае, што размаўляць на роднай мове ў роднай краіне не проста непажадана, а нават небяспечна.

«Мне тут расказваюць, што я мушу прыстасоўвацца. А я што, быдла якое? Я не на сваёй зямлі, я не на сваёй мове тут гавару? Хто і па якім праве мяне тут прыніжае і лічыць якраз сябе нейкім суперчалавекам, які не абавязаны ведаць беларускую? А чаму я абавязаны ведаць ЗАМЕЖНУЮ для мяне мову? Чаму? І прабіцца з гэтай тэмай немагчыма. І вельмі рады, што хоць такім скандальным чынам тэма дыскрымінацыі беларусаў з боку русскаязычных выплывае на паверхню», – напісаў адзін з карыстальнікаў у Фэйсбуку.

Сапраўды, гісторыя Арамаіса, што стала нагодай нават для выказванняў расійскіх палітыкаў кшталту: «Беларускі нацыяналізм уздымае галаву», чарговы раз узняла праблему, якую ўлада не проста не заўважае, а ўвесь час актуалізуе.

Сённяшняя размова з Арамаісам Міракянам не пра скандальную гісторыю і не толькі пра беларускую мову.



Дзіяна СЕРАДЗЮК

— Я напалову рускі, напалову армянін, ува мне няма беларускай крыві. Мая мама, яна рускамоўная, з рускай сям'і. Яна нарадзілася ўжо тут і падчас перапісу насельніцтва пазначыла сябе беларускай.

Бацька мой з Арменіі, ён пераехаў у Беларусь пасля землятрусу 1988 года. Да гэтага ён працаваў токарам на вялікім прадпрыемстве, і ў той дзень уратаваўся цудам. Быў абедзенны перапынак, яны з калегамі гулялі ў даміно, якое пачало скакаць па стале. Адзін з мужчынаў, які з імі быў, сказаў: «Вы, маладыя, уцякайце, а я пабягу папярэдзіць астатніх». Ён пабег, і там і застаўся, як і вельмі шмат хто. Мой бацька тыдзень працаваў на разборы завалаў, пасівеў у 28 гадоў.

***— Ты ўжываеш дзве мовы?***

— Я карыстаюся мовамі ў залежнасці ад кампаніі: з беларускамоўнымі — беларускай, з рускамоўнымі — рускай. У штодзённым ужытку гэта 70 на 30 з перавагай беларускай мовы. Беларускую мову я вывучыў у школе, гэта не першая мая мова. У 2010 годзе, калі мне было 15, адбываліся падзеі Плошчы, і гэта на мяне вельмі моцна паўплывала. З тае пары пачаўся мой паступовы пераход на беларускую мову.

***— Кім ты сябе адчуваеш перадусім — беларусам, армянінам ці рускім?***

— Беларусам, адназначна. Я не магу быць рускім, бо не разумею гэтых людзей. Я бываў у Расіі, але амаль ніколі там не жыў. Мой самы працяглы перыяд жыцця там — два месяцы, у мяне там была гісторыя вялікага кахання. У Арменіі я ўвогуле быў адзін раз з бацькам у сярэдзіне 2018 года. Там я чужы. Калі я чую «Купалінку», адчуваю, што гэта сваё. З расійскімі ці армянскімі мелодыямі такога няма.

***— А ўвогуле, на якіх каштоўнасцях цябе выхоўвалі, што і хто паўплываў на цябе як асобу?***

— Вельмі моцна на мяне паўплывала мая бабуля, якая сыйшла ад нас у мінулым годзе. Яна, маці, бацька, цётка — усе казалі адно: ты павінен быць чалавекам, абараняць слабых, нікога не крыўдзіць, не рабіць подлага. Казак пра Каліноўскага мне не чыталі. Але ў мяне абвостранае пачуццё справядлівасці. Ва ўніверсітэце мне часам за гэта «прылятала», таму што я мог пайсці да адміністрацыі кагосьці бараніць.

***— Чаму ты абраў прафесію журналіста?***

— Класа ад восьмага я зразумеў, што хачу быць журналістам. Але гэта было няпроста, таму што праз інваліднасць мне трэба было праходзіць медычную камісію. Ёсць спіс «дазволеных» прафесій, і мне прыйшлося зламаць сістэму, скардзіцца, ісці ў вышэйшыя інстанцыі, каб дамагчыся таго, чаго хацеў. Мне казалі: «Ты можаш быць ліфцёрам, вахцёрам і падлогацёрам». Яшчэ — зборшчыкам лазы. Я адказваў: «Калі вы пазбаўляеце мяне права на навучанне, я буду пісаць у Адміністрацыю прэзідэнта». Урэшце мне забаранілі быць міжнародным журналістам, але на журфак дапусцілі. Здаецца, я адзін такі на ўсю краіну, хаця чуў яшчэ пра аднаго хлопца.

***— Не расчараваўся ў журналістыцы ў Беларусі?***

— Канечне, нашыя дзяржаўныя СМІ — гэта не журналістыка. Але ж незалежныя СМІ працуюць, проста для іх паўстаюць пэўныя выклікі — і гэта магчымасці для ўдасканалення. Не магу сказаць, што ў нас непрафесійная журналістыка. Той жа «Новы Час» — маленькая адважная рэдакцыя.

***— Для чалавека з інваліднасцю кожны дзень — своеасаблівае пераадоленне, прынамсі, так можа падавацца збоку. Ці так гэта ў тваім выпадку?***

— Пераадоленне — гэта, хутчэй, для людзей з набытай інваліднасцю. У мяне яна ад нараджэння. У мяне няма і не будзе іншых вачэй і іншых ног. Гэта не пераадоленне, а проста жыццё, якое амаль нічым не адрозніваецца ад звычайнага. Пераадоленне — гэта пра пакуты. Я не пакутую. Да мяне ніколі не было стаўлення як да пакрыўджанай у плане здароўя асобы.

**У нас любяць з'ехаць з Беларусі і потым казаць, як тут усё блага. Але я не хачу з'язджаць у Польшчу ці Літву. Я хачу пакласці жыццё на тое, каб Польшча і Літва былі тут. У нас не працуюць правы чалавека, але не заўжды яны працавалі і там**

***— Ты вывучаеш замежныя мовы і займаешся перакладамі. Адкуль такая цікаўнасць?***

— Аднойчы я зразумеў, што, калі ведаеш толькі рускую і беларускую мовы, то вельмі моцна сябе абмяжоўваеш. Бліжэйшай мовай была украінская, спачатку вывучаў яе сам, потым заняў нейкае месца на конкурсе перакладаў «Зразумець Украіну». Пасля вывучаў мову на курсах ад амбасады, здаў іспыт на ўзровень валодання ўкраінскай B1. Польскую і сербскую вучыў самастойна. Не магу размаўляць, але чытаю і перакладаю свабодна. Зараз пачаў вывучаць ідыш — і гэта нечакана натхніла мяне на пераклады з баснійскай. Я проста люблю, каб галава працавала і не магу не вучыцца.

Адна з маіх найбольшых зацікаўленасцяў — Балканы. Гэта прагучыць нясціпла, але гісторыю і культуру Балкан так, як ведаю я, мала хто ў нас ведае. Цяпер я перакладаю вершы жывога класіка баснійскай літаратуры Абдулы Сідрана. Вельмі хачу перакласці яго вялікую паэму «Срэбраніца» пра разаніну ў 1995-м, падчас апошняй вайны. Бо ў нас на гэтую вайну пануе расійскі погляд.

***— Сярод тваіх цікавасцяў — правы чалавека. Як ты прыйшоў да гэтай тэмы?***

— Я даведаўся пра чачэнскіх уцекачоў у Брэсце. Мы разам з сябрамі з тэатральнай лабараторыі Свабоднага тэатра, у якіх я трохі выкладаў журналістыку, ездзілі размаўляць з імі. Выйшаў вялікі артыкул у трох частках, які перамог як найлепшы матэрыял пра ўцекачоў у 2018 годзе па версіі Цэнтра падтрымкі ўцекачоў. Я прыйшоў валанцёрыць у Human Constanta, потым закончыў агульны і паглыблены курсы па правах чалавека.

Не трэба баяцца адстойваць свае правы. Цяпер мяне вельмі турбуе справа анархістаў, якіх прызналі палітзняволенымі. Мне крыўдна, што гавораць пра гэтую чортаву гарбату, а не пра Емяльянава з Комарам. Я салідарызуюся з імі. Падзяляю я іх погляды ці не, але даваць людзям па сем гадоў за шкоду ў 1,5 рублі — гэта вар'яцтва.

***— Няма адчування, што Беларусь і правы чалавека — гэта нешта несумяшчальнае?***

— Чым больш паглыбляешся, тым больш разумееш, што ёсць некалькі інструментаў, але не працуе ніводзін з іх. У нас любяць з'ехаць з Беларусі і потым казаць, як тут усё блага, а там — залатыя рэкі цякуць. Але я не хачу з'язджаць у Польшчу ці Літву. Я хачу пакласці жыццё на тое, каб Польшча і Літва былі тут. Пакуль у нас не працуюць правы чалавека, але не заўжды яны працавалі і там. І калі я чытаю праваабарончыя справаздачы з Узбекістана, Таджыкістана, афрыканскіх краін, то ў нас — проста Швейцарыя. І я хачу — цяпер гэта мне падаецца галоўнай мэтай майго жыцця — зрабіць так, каб тут было жыць лепей. Я разумею, што мне дзесяці жыццяў не хопіць на гэта. Але нават калі тры беларускія кавярні вывучаць слова «гарбата» — я ўжо пражыў жыццё не дарма.

Мне баліць за правы мігрантаў. Я вернік, хоць і не рэлігійны чалавек, але мне мой Бог не перашкаджае талераваць маіх сяброў ЛГБТ. Я мару пра Беларусь без дыскрымінацыі паводле розных прыкметаў, дзе будзе добра беларускамоўным, людзям з інваліднасцю, жанчынам, ЛГБТ-людзям.

***— Выкананне правоў чалавека наўпрост звязана з палітычнай воляй. Што ты думаеш пра палітыку ў Беларусі, у прыватнасці, пра падзею, якая чакае нас сёлета і якую называюць «выбарамі»?***

— Калі казаць пра кампанію па выбарах адзінага кандыдата... Усе гэтыя людзі, акрамя Паўла Севярынца, пазбаўленыя харызмы. Я паважаю Паўла Севярынца — усё ж мы робім адну справу, але рознымі метадамі — і яго сям'ю. І вельмі шкада, што мы з ім разыходзімся ў светапоглядных рэчах. Таму — праігнарую чарговыя «выбары» і падтрымаю кампанію «Свежы вецер». У Беларусі настолькі дыскрэдытаваная ідэя выбараў, што, пакуль у іх удзельнічае кандыдат, чыё прозвішча пачынаецца на «Л» і заканчваецца на «а», усё гэта не мае сэнсу. Я не лічу, што ў сучаснай Беларусі мы можам нешта змяніць шляхам выбараў. Ну, выберуць адзінага кандыдата ад апазіцыі, а Ярмошына скажа: «Яго не зарэгіструюць». І далей? Я не веру, што сотні тысяч людзей выйдуць на вуліцы. Я бачу шлях перавыхаваннеў у маруднай, цяжкай працы — да народа трэба ісці «са свечкай», размаўляць з людзьмі.

# У суаўтарстве з Барадуліным

Сяргей ШАПРАН

**Рыгору Барадуліну 24 лютага было б 85. Ужо амаль шэсць гадоў, як яго няма з намі, і ўсё часцей і сам дзядзька Рыгор, дасціпны вастраслоў і жартаўнік, і тыя забаўныя гісторыі, героем якіх ён быў, прыгадваюцца з добрай усмешкай...**

## На кані

Набліжаўся 70-гадовы юбілей Барадуліна. Я прыдумаў сфатаграфаваць яго на кані, каб пасля падпісаць фота: «Дзядзька Рыгор і ў 70 па-ранейшаму на кані». Але Барадулін працяглы час не згаджаўся, пакуль нарэшце ў адзін лютаўскі дзень не прыехаў у Лошыцкі парк, дзе тады месцілася невялічкая стайня.

Коніка яму падабралі самага ціхмянага. Дзядзьку Рыгору настолькі спадабалася ехаць вярхом, што нават у стайню ён пасля накіраваўся конна. І толькі тады прызнаўся, чаму не згаджаўся на ўгаворы:

— Баяўся, што конь мяне не вытрымае.

## Рамонт

Разам з Андрэем Палудам адвезлі Барадуліна ва Ушачы, каб ён мог спакойна пажыць і паправіць здароўе. Прыязджаем праз два тыдні — дзядзька Рыгор пачуваецца зусім інача́й, чым калі пакідалі яго.

Адрамантаваўшы плот (мясцовыя, водзячы каня на вадапой паўз барадулінскі панадворак, разбурылі плот, каб прасцей было хадзіць), ад'язджаем.

— Дзякуй вам за рамонт! — кажа дзядзька Рыгор.

Думаючы, што размова ідзе пра рамонт плота, гаворым, што няма за што. Барадулін:

— Дзякуй за рамонт мяне!

Потым неаднойчы пачую яго выслоўе пра самога сябе:

— Што зроблена ў СССР, рамонту не падлягае.

## Міфатворчасць

Працуючы над раманам «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без», Уладзімір Някляеў патэлефанаваў Барадуліну:

— Ты ж не пісаў антысавецкія вершы ў 1960-я гады?

— Не, не пісаў.

— Дык напішы цяпер!

Не прайшло і паўдня, як Барадулін прачытаў па тэлефоне:

*Рахманыя, няўпартыя,*
*Мы ўсе — адзін калгас.*
*Кіруе намі партыя*
*І думае за нас.*
*Дазвол ёсць жыць у лагеры*
*Сацыялізму ўсім.*
*Дарма буржуі звягаюць,*
*Мы не зайздросцім ім.*
*На волю нам не хочацца,*
*Мы рушым свет стары,*
*І вораг не прато́чыцца*
*У цвёрдыя муры.*
*Дакладна кожны ведае:*
*Быў камуніст — Ікар!*
*Для мар пра заўтра светлае*
*Хапае голых нар.*

З гэтым вершам Някляеў і «паставіў» у сваім рамане ў 1962 годзе на прыступкі Тэатра юнага гледача студэнта філалагічнага факультэта БДУ Рыгора Барадуліна, які, прачытаўшы свой «крамольны» верш, хуценька ўцёк на філфак.

Зрэшты, «недакладнасць» была не толькі ў тым, што антысавецкія вершы пачатку 1960-х у бібліяграфіі Барадуліна наўпрост адсутнічаюць, — у гэты час ён і студэнтам ужо не быў, бо скончыў філфак за тры гады да таго.

## У суаўтарстве

Выйшаў «Вушацкі словазбор» Рыгора Барадуліна. Пытаю:

— Ці правільна разумею: нельга назваць «Вушацкі словазбор» фальклорным зборнікам у чыстым выглядзе — лепш гаварыць пра ваша суаўтарства з землякамі?

— Калі нешта не так клалася, дык даводзілася падпраўляць, але, вядома, у межах, — кажа дзядзька Рыгор.

— Гэта значыць, стылізавалі?

— Крыху стылізаваў, але так, каб не было заўважна. Да таго ж, калі ў галаву прыходзілі нейкія прыказкі і прымаўкі, я часам не ведаў: ці гэта вушацкае, ці я сам сачыніў?

— І тады думалі: хай будзе вушацкае?

— Так, хай будзе вушацкае!

## Бацькоўскі клопат

Праз тое, што Барадулін чакаў сына, а нарадзілася дачка (ён так упарта верыў у сына, што нават калі ўрачы паведамілі пра дачку, усё адно запярэчыў: «Не можа быць! У мяне будзе сын!»; ужо нават імя выбраў — Яраслаў), першым наведаў ягоную жонку Васіль Быкаў. Барадулін прыехаў у Гродна толькі праз тры дні, бо бурна адзначаў нараджэнне дачкі, а больш дакладна, развітваўся з марамі пра сына.

І ў выхаванні адзінага дзіцяці асаблівага ўдзелу не браў — Валянціна Міхайлаўна памятае толькі, як вадзіў двухгадовую Ілону на Камароўку. Дый пайшоў выключна таму, што сама жонка ў бальніцы ляжала, а на Камароўцы тады прадавалі малдаўскае віно ў бочках.

## «Я пазваню табе з трамвая!»

Паэт Янка Сіпакоў прыгадваў, што Барадулін меў звычку спазняцца. Чакаючы на яго, пачыналі злавацца, але ён умеў куды хочаш і адкуль хочаш дазваніцца. І гэта ў той час, калі мабільных тэлефонаў не было.

— Я ўжо еду! — гаварыў Барадулін, тэлефануючы.

— А адкуль ты звоніш?

— З тралейбуса!

Гэтаксама і паэт Ганад Чарказян сведчыў, што не раз чуў ад Барадуліна:

— Я пазваню табе з трамвая!

Гэтая фраза, якая некалі вырвалася ў Барадуліна, стала звычайнай прымаўкай не толькі яго, але і ягонага сябра Уладзіміра Караткевіча. Сяргей Законнікаў з'іранізаваў з гэтай нагоды:

*Быў дамабільнікавы час…*
*Рыгор сустрэцца забывае.*
*Тэлефануем, а ў адказ:*
*«Я еду… Вам званю з трамвая!»*
*Цяпер жа што — трамвай, аўто!*
*Званкі не дзівяць нават з лесу.*
*Але не ўсім вядома, хто*
*Стаў бацькам гэтага прагрэсу.*

## Барадулін і Колас

Якуба Коласа Барадулін бачыў толькі аднойчы — у 1955-м, падчас нарады маладых пісьменнікаў. Канстанцін Міхайлавіч, спазніўшыся, прыехаў не дужа здаровы і асцерагаўся скразнякоў. Пачатковец Барадулін, не разумеючы ўсеагульнай увагі да аўтара «Новай зямлі», абураўся: «Як гэта Якуб Колас позніцца? Мы ж чакаем усе аднаго! Мы не баімся ніякіх скразнякоў, а ён баіцца! Навошта каля яго, строга, так круцяцца?! Гэта ж мы прыйшлі!»

— Цяпер, дажыўшы да коласавых гадоў, разумееце? — пытаюся ў Барадуліна.

— Абсалютна разумею. Разумею нахабнасць сваіх думак.

## Барадулін і Гілевіч

З нарады маладых літаратараў з удзелам Якуба Коласа захаваўся фотаздымак, пра які Барадулін потым напісаў: «На адным з групавых здымкаў тырчыць і мой нос недзе ў самым апошнім шэрагу. У каго ўжо тады хапала самаўпэўненай смеласці, стаў наперадзе». Гэты другі сказ, мусіць жа, адносіцца да Ніла Гілевіча, бо ён стаіць не дзе-небудзь, а наперадзе.

Зрэшты, узаемная нелюбоў двух паэтаў агульнавядомая. Едзем аднойчы з дзядзькам Рыгорам праз Лагойшчыну, ён кажа:

— І мясціны прыгожыя, а як падумаю, што родам адсюль Гілевіч, дык не падабаюцца!

Хоць у далёкім мінулым былі і рэкамендацыя, якую даў Гілевіч Барадуліну для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў, і нават паэтычнае суаўтарства. Уладзімір Някляеў меркаваў, што, праз нешта некалі разышоўшыся, абодва за даўнасцю проста забыліся, праз што. Гэтаксама і Валянціна Міхайлаўна сведчыла:

— Гілевіча Рыгор цярпець не мог. Я неяк спыталася: «А чаму ў цябе так з Нілам?» Ён нічога не сказаў, толькі радаваўся, што Бураўкіна ад Ніла «адляпіў», і Быкава таксама, а то, кажа, такія ўжо сябрукі зрабіліся! Грыша быў своеасаблівы чалавек: мог ні за што палюбіць, а мог ні за што неўзлюбіць. І для гэтага не трэба было аніякай прычыны.

Зрэшты, дзеля справядлівасці трэба сказаць, што на тым даўнім групавым фотаздымку Гілевіч хоць і стаіць паперадзе, але з краю. А Барадулін бачны адразу за Коласам.



Фота Сяргея Шапрана

## Зборны вобраз

У караткевічавай «Ладдзі Роспачы» ёсць прысвячэнне — Рыгору Барадуліну. Вось як апісаны там галоўны герой:

«Сабою быў дзівосна гожы і пяшчотны, а паводзін — самых заганных. Хобаль, залётнік, піяка, задзіра, бітох, бабздыр несамавіты. Не было на ўсёй зямлі беларускай падобнага яму. Ляхі такіх завуць — "завалідрога", а мы, людзі роду крывіцкага, "адарвірог"... […] І сябры ў яго былі адпаведныя. […] Набяруць гарэлкі, паедуць у лугі, дзіка заб'юць, ды на лаўцах пякуць дзічыну, ды песні гарлаюць — от і ўсё іхняе набажэнства пану Богу за тое, што даў ім жыццё».

Пытаюся ў Барадуліна:

— Ці былі вы, дзядзька Рыгор, у маладосці падобны на Вылівáху?

— Нешта, канечне, ёсць у гэтым, — Барадулін смяецца. — Але любы літаратурны герой — ён зборны.

— А чаму Караткевіч ахвяраваў вам менавіта «Ладдзю Роспачы»?

— Мы з ім весела жылі. Так што ўсё магло быць.

— Магло ці было?

— Думаю, што было, — усміхаецца Барадулін і дадае: — У Вылівахі частка ад мяне, частка — ад Валодзі.

## Прыгоды «Ладдзі роспачы»

Напісаўшы «Ладдзю Роспачы», рукапіс Караткевіч падарыў Барадуліну. Аднак, паколькі, як казаў дзядзька Рыгор, «Ладдзя Роспачы» не мела намеру прычальваць да берага сацыялістычнага рэалізму, яе нідзе не друкавалі.

Пераклáсці аповесць на рускую мову ўзяўся Васіль Сёмуха. А калі ўсё ж з'явілася прывідная надзея надрукаваць «Ладдзю» ў арыгінале, высветлілася, што рукапіс згубіўся. І ў Караткевіча ўзнікла ідэя перакласці твор на беларускую мову з сёмухавага перастварэння. Але выратаваў выпадак: неяк пераглядаў Барадулін паперы ва Ушачах, а там — рукапіс «Ладдзі»! Прывёз у Мінск, з радасці адзначылі тую падзею разам з аўтарам. Назаўтра спахапіліся: а дзе ж рукапіс?! Зноў доўга шукалі, пакуль не знайшлі на кухні... за газавай плітой — так «надзейна» схавалі ўначы, каб не згубіць другім разам.

## Прызнанне

Рыхтуючы білінгвічную кнігу «Перакуленае / Опрокинутое», я неяк не стрымаўся дый сказаў аўтару:

— Чытаю вас па-беларуску і разумею: вялікі паэт. Чытаю па-руску і бачу: сярэдні паэт!

Дзядзька Рыгор нечакана, бо нават паэтам не любіў сябе называць, а толькі чаляднікам ці паслугачом беларускай мовы:

— Я ведаю. Па-руску я шэранькі паэт.

## «Не фігуруйце, Грышачка!»

У працоўным кабінеце Барадуліна слоўнікі і кнігі ягоных сяброў — Быкава, Караткевіча, Стральцова, Някляева — былі ў кніжнай шафе злева ад пісьмовага стала — толькі працягні руку! Дастаўшы адно з караткевічавых выданняў, я прачытаў: «Дарагому Рыгору Барадуліну з любоўю да яго самога, добрага і шчырага чалавека, і яго светлай, сапраўды вялікай, нашай, беларускай паэзіі. Нічога, браце, зразумееш, побач з кім жылі».

— Як думаеце, дзядзька Рыгор, зразумеюць? — пытаюся.

— Сам пра сябе... Караткевіч у такіх выпадках любіў гаварыць: «Не фігуруйце, Грышачка!»

# Па старонках «Вожыка». Як у БССР з зімой змагаліся

Алег НОВІКАЎ

**Цяперашняя цёплая зіма, магчыма, папоўніла клуб тых, хто настальгуе па мінулым. Між тым, як сведчыць архіў малюнкаў часопіса «Вожык», кожная зіма была для БССР сур'ёзным выклікам.**



— Калі замярзаем — уключаем музыку.

Малюнак М. Гіргеля.

Больш за ўсіх ад зімы пакутавала вёска. Сюжэт пра кароў, якія мёрзнуць на халодных фермах узімку, прысутнічаў у карыкатурах амаль на працягу 45 год! На тых малюнках мяняўся выключна антураж, бо пакуль каровы мёрзлі, тэхнічны прагрэс не стаяў на месцы.



— Як праехаць у калгас «Усход»?
— Прайсці можна, а як праехаць — не ведаю.

Малюнак С. Раманава.

Аднатыпнасць малюнкаў на тэму жыцця вёскі ўзімку лёгка тлумачыцца станам зімовых дарог БССР.



— Канькоў няма і не будзе.
— Дзядзя, вы на гэтым каньку не першы год ездзіце.

Мал. В. Ціхановіча.

Тэма вечнага дэфіцыту зімой іграла новымі фарбамі.




— Навошта вы, дзядзечка, два кажухі апранулі?
— То ж сення, кажуць, фільм двухсерыйны.

Зіма была суровым часам для аматараў кіно. Практычна штогод «Вожык» абураўся холадам у клубах.



СЛІЗКАЕ ПЫТАННЕ
— На гэты раз і яму не ўдалося абыйсці слізкае месца.
— А хто гэта?
— Прадстаўнік гарсавета.

Мал. В. Грамыка.

Гарады больш за ўсё цярпелі праз галалёд.



—Які друз, якое смецце?! Вунь дзецям адно раздолле!

Малюнак М. Шышлова.

Безгаспадарлівасць і разгільдзяйства цешылі дзяцей, якія ператваралі будаўнічыя пляцоўкі ў гульнявыя.

Пра тое, як у БССР палявалі на стыляг, мы з дапамогай карыкатур «Вожыка» распавядзем наступным разам.

# БагатаДата

**На тыдні споўнілася б 85 гадоў Рыгору Барадуліну. Але і акрамя гадавіны народзінаў слыннага паэта ў нас ёсць што адзначыць і каго ўзгадаць.**

## 22 лютага

**Міжнародны дзень падтрымкі ахвяраў злачынстваў.**

**1965.** У Гродне нарадзіўся Валерый Цэпкала. Першы кіраўнік Парку высокіх тэхналогій. Працаваў першым намеснікам міністра замежных справаў Беларусі, паслом у ЗША.

## 23 лютага

**1830.** У маёнтку Рудакоў (цяпер вёска ў Хойніцкім раёне), нарадзіўся адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі Аляксандр Аскерка. Што праўда, дакладная дата нараджэння невядомая. Быў паўстанцкім начальнікам у Вільні. Арыштаваны царскімі ўладамі і прысуджаны да смяротнага пакарання, пасля замененага на 15 гадоў сібірскай катаргі з пазбаўленнем статусу двараніна. Памёр у 1911 годзе і пахаваны ў Вільні на могілках Роса.

## 24 лютага

**Масленіца — пачатак святочнага масленічнага тыдня.**

**1935.** На хутары Верасоўка Ушацкага раёна нарадзіўся Народны паэт Беларусі, класік беларускай літаратуры Рыгор Барадулін. Ён апошні, каму надалі званне «Народны паэт Беларусі» (у 1992 годзе).

**1845.** У маёнтку Кацельнікі каля Капыля нарадзіўся Ян Сільвестр Наркевіч-Ёдка, паўстанец і інжынер-будаўнік. Стрыечны брат прыродазнаўцы Якуба Наркевіча-Ёдкі. Удзельнік паўстання 1863–1864 гадоў. Сасланы ў Сібір. Пасля вызвалення скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт, дзе атрымаў адукацыю будаўніка і хіміка. Эміграваў у ЗША. Спраектаваў і пабудаваў шмат мастоў у ЗША.

## 25 лютага

**1905.** У вёсцы Міхнавічы Калінкавіцкага раёна нарадзіўся дзяржаўны дзеяч БССР Аляксей Кляшчоў. Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху і падполля ў Беларусі падчас Другой сусветнай. У 1948–1953 гадах — старшыня Савета міністраў БССР.

**1945.** У югаслаўскім горадзе Ягертаў нарадзілася народная артыстка Беларусі Вольга Клебановіч. Служыла ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры, а затым перайшла ў Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Горкага ў Мінску, у трупу якога ўваходзіць дагэтуль. Ролі: Сцепаніда ў «Знаку бяды», Вольга ў «Трох сёстрах».

## 26 лютага

**Сусветны дзень няспешнасці.**

**1940.** У вёсцы Суцін Пухавіцкага раёна на Міншчыне нарадзіўся Уладзімір Пузыня, вядомы майстар-рэстаўратар нацыянальных музычных інструментаў і выканаўца на іх. Стваральнік музея такіх інструментаў «Беларуская хатка».

## 27 лютага

**1905.** У Варшаве нарадзіўся беларускі жывапісец Міхаіл Сяўрук. Жыў і працаваў у Вільні, а затым да самае смерці ў Нясвіжы. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі і музеях Вільні. У Нясвіжы дзейнічае кватэра-музей мастака.

**1990.** Вярхоўны Савет СССР выдаў пастанову, паводле якой у краіне ўводзілася пасада прэзідэнта. Першым і апошнім прэзідэнтам СССР быў Гарбачоў.

## 28 лютага

**2010.** Створаны Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці — як філіял Нацыянальнага гістарычнага музея.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навіны». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 304

Падпісана да друку 21.02.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.